Даследаванне зла ➔3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

Беларускія фільмы на Расточы ➔ 9



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 36 (2938) Год LVII | Беласток, 2 верасня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Мультыопера чакае нас

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Падляшская опера і філармонія — Еўрапейскі цэнтр мастацтва. Адна з рэпетыцый да мюзікла „Корчак”. Тадэвуш Платэк, музычны кіраўнік спектакля камандуе: „Яўрэйскія дзеці направа, каталіцкія дзеці — налева”. Малады харыст з Непублічнай пачатковай школы святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку: „А праваслаўныя дзеці — куды?”. Іншая з рэпетыцый. Рэжысёр „Корчака” Раберта Скальмоўскі дзень да каталіцкага свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі: „Заўтра рэпетыцыі не будзе”. Акцёр ад Кірылы і Мяфодзія: „Як гэта, яўрэйскіх дзяцей гэтае свята не датычыць”. Яшчэ адна рэпетыцыя. Памочніца рэжысёра: „Дзеці, ціха!”. Адзін з дзецюкоў-акцёраў, словамі галоўнага героя: „Няма дзяцей, ёсць людзі”.



Тамаш Стэцюк (злева) і Раберта Скальмоўскі

Рэпетыцыі да „Корчака” канчаюцца якраз на імпазантнай сцэне новага гмаху Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай. Пару дзесяткаў дзяцей прымаючых удзел у прадстаўленні трапілі сюды з кастынгу. На оперный сцэне дэбютуюць таксама дзеці, якія штодзень ганарацца сваёй беларускасцю і прыналежнасцю да праваслаўя.

— Беларускія дзеці маюць у генах вельмі вялікі ўзровень музыкальнасці, — сцвярджае дырэктар ПОіФ і рэжысёр „Корчака”, калі мы сустрэліся перад адной з рэпетыцый да мюзікла.

Дзевяцёра дзетак, з якімі мы размаўлялі, вучацца ў Непублічнай школе святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, а адна з дзяўчынак у Пачатковай школе № 4. Ім ад васьмі да дванаццаці гадоў. З хваляваннем расказвалі:

— Януш Корчак гэта быў лекар, заснаваў дзіцячы дом і апекаваўся дзецьмі. Спектакль аб тым, што ён дзяцей не пакінуў і пайшоў з імі на смерць. Можам у гэтым спектаклі навучыцца співаць і розных файных рэчаў.

— Файна співаецца, файна практыкуецца, файны таксама пан дырэктар і файныя пані. Опера вельмі прыгожая: агромная сцэна, агромная публіка. Неўзабаве выязджаем у Нямеччыну, у места памяці Заксенхаўзен (прадстаўлена там будзе 1 верасня скарочаная канцэртная версія — М. Х.) і не будзе нас на распачацці школьнага года.

— Цяжкае тут раздзяленне на галасы, бо лёгка памыліцца.

— Я вісеў на рампе як Тарзан, у кароткіх штоніках. Калі ўвесь час мы тую сцэну паўтаралі, дык я тыя штаны страшна папэцкаў!

— Важна, каб разборліва вымаўляць словы, мець добрую дыкцыю, каб зразумеў глядач.

— На рэпетыцыях час ад часу глядзім нерухома пяць-дзесяць хвілін. Нельга нават далікатна крануць нагой, бо ўсё будзе відаць з глядзельнай залы. Калі так прытрапіцца, дырэктар спыняе рэпетыцыю і трэба паўтараць. Гэта можа раззлаваць.

— Цяжкай сцэнай была тая, дзе кроплі падаюць на галаву, а трэба стаяць нерухома.

— Пасля прэм’еры мы павінны мець два-тры выступленні ў месяц. Ігралі мы ўжо ў Цеханоўцы, значыць, співалі і гаварылі свае ролі.

— У маім мікрараёне калегі пытаюцца, нашто хаджу на тыя рэпетыцыі, яны ж дурныя і нудныя. Я не звяртаю на гэта ўвагі. Кажу, што „Корчак” недурны і можна чагосьці навучыцца. Дзіўна на мяне глядзяць, калі даведваюцца, што мы ў час канікул маем рэпетыцыі па шэсць-сем гадзін штодзень. Пераважна, бо ў сапраўднасці мелі мы іх галоўным чынам па тры гадзіны, а цяпер, падканец рэпетыцый, дык па паўтары гадзіны.

— Не зусім так цяжка, хаця рэпетыцыі частыя.

— Даем сабе рады!

На рэпетыцыі, на якую мы трапілі, дырэктар-рэжысёр стараўся быць цярплівым. Дзеці рэпеціравалі адну з калектыўных сцэн з Янушам Корчакам, значыць, акцёрам Тамашом Стэцюкам (у гэтую ролю ўвасабляцца будзе заменна таксама Дам’ян Аляксандар). Крыху раней Раберта Скальмоўскі расказваў нам аб тым, як памежнае распалажэнне Падляшша і яго шматкультурнасць, у тым ліку моцна прысутная тут беларускасць, перакладвацца будзе на дзейнасць ПОіФ — Еўрапейскага цэнтра мастацтва:

— Ужо перакладваецца. Падляшская опера і філармонія ад верасня мінулага года з’яўляецца адзінай бюджэтнай установай культуры, якая паслядоўна на трох мовах выдае ўсе свае сродкі масавай інфармацыі: праграмы, штоквартальнікі. Яны перакладваюцца на літоўскую і беларускую мовы. Гэтак будзе далей. Наш сайт будзе мець чатыры моўныя версіі: англійскую, польскую, беларускую і літоўскую. Чарговая рэч, якая нам удалася, звязана была з афёрай, якая разбушавалася вакол Беларускага аб’яднання студэнтаў і „Басовішча” (гаворка пра сур’ёзныя фінансавыя праблемы БАС, у сувязі з якімі арганізацыя сёлетняга Фестывалю музыкі маладой Беларусі заставалася пад пытаннем — М. Х.). Пасля таго як я сказаў, што магу сам зрабіць гэты фестываль, актывізаваліся розныя асяроддзі. Першыя дзве сустрэчы на гэтую тэму адбыліся ў фае Філармоніі па вуліцы Падлесьнай. Гэта мы запрасілі ўсіх зацікаўленых і паставілі іх пад сценку. Фантастычна, што „Басовішча” адбылося. Я быў гатовы памагчы больш, але, на шчасце, не мусіў у гэта ўваходзіць у кожнай цалі. З дырэктарам Анатолем Вапам (дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якому Падляшская опера і філармонія падлягаюць — М. Х.) лічым сабе за гонар, што маглі заінспіраваць акалічнасці, каб гэты фестываль утрымаўся.

Што далей, дапытваліся мы.

— Ёсць у мяне вельмі добрая вестка для аматараў „Бардаўскай восені”. Кастрычніцкі канцэрт не будзе праводзіцца ў старой зале Філармоніі, як я абяцаў, але ў новай сядзібе Оперы і філармоніі. Я нядаўна сустрэўся з віцэ-міністрам культуры Беларусі. Падтрымаў ён нашу ідэю вяртання да жыцця творчасці Яна Тарасевіча (выдатнага кампазітара родам з Сакольшчыны, адкрытага праз гады нашай рэдакцыйнай сяброўкай Ганнай Кандрацюк-Свярубскай — М. Х.). Дзякуючы гэтаму беларускія музеі і архівы дапамогуць нам у падрыхтоўцы выставы аб ім. Ад году маем сканы ўсіх дакументаў. Удалося нам, аднак, перакрочыць нейкі бар’ер і прыедуць некаторыя арыгіналы дакументаў. Выстава будзе сарганізавана пры нагодзе фестывалю Яна Тарасевіча. Па прычыне біяграфіі і сваіх вандровак Ян Тарасевіч з’яўляецца для мяне сімвалам музыкі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам. У рамках гэтага фестывалю штогод будзем паказваць творчасць людзей, якія жылі ў розныя эпохі, уключна з барока, на тэрыторыі ВКЛ, значыць, ахапляючай сваім абсягам таксама сённяшнюю Беларусь. Будуць канцэрты, фартэпіянны конкурс і — што для мяне найважнейшае — будуць выданні твораў для дзяцей, якія Ян Тарасевіч пісаў для сваіх вучняў, на розных узроўнях цяжкасці. Хочам іх выдаць папольску і па-беларуску. Усе музычныя асяродкі, у тым ліку музычныя школы, дарам іх атрымаюць на Падляшшы, а на беларускім баку — такія ж па-беларуску. У цяперашняй палітычнай сітуацыі гэта выключнае, што выдаем штосьці разам. А ўсё з думкай пра палякаў у Беларусі і беларусаў пражываючых у Польшчы. Апрача таго, дзякуючы гранту польскага Міністэрства замежных спраў, у рамках фестывалю „Camera!ta”, будзем паказваць нямое беларускае кіно з жывой музыкай, якую будуць іграць беларускія маладыя творцы, якія часта не могуць выступіць у сябе. Маю шчасце, што ў маім калектыве ёсць Ілона Карпюк, якая з’яўляецца маторам усіх гэтых дзеянняў і рэалізуе гэтыя праекты.

Раберта Скальмоўскі раслумачыў таксама, што далей з задумай, каб грамадзяне Беларусі маглі атрымліваць бясплатныя візы ў Польш-

працяг ☞ 11

9 770546 196000



# А што засталося?

Прайшоў 21 год з таго часу, калі мары многіх пакаленняў беларускіх патрыётаў пра незалежнасць сталі рэальнасцю. 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет БССР надаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статус канстытуцыйнага закону. З гэтага моманту імкліва распачаўся працэс аднаўлення беларускай дзяржаўнасці. Назва БССР была зменена на назву Рэспубліка Беларусь. Беларускую дзяржаву пачалі прызнаваць па ўсёй планеце. Надуманыя савецкія сімвалы замянілі старадаўнія бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай мовай краіны. З'явіліся беларускія грошы. Пачалася пабудова дэмакратычных інстытутаў. Грамадзянскія свабоды ўжо ні ў каго не выклікалі здзіўлення. Прапаў страх. Вольныя людзі масава пачалі карыстацца такімі дэмакратычнымі заваёвамі як свабода слова. Ні ў каго ўжо не было сумненняў у тым, што наступныя выбары будуць цалкам дэмакратычнымі і кожны голас кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь будзе ўлічаны і непасрэдна паўплывае на будучыню ўсяго народа.

Гэта быў час надзеі і наіўнага рамантызму на ўсёй шостай частцы сушы, якую тады займала ўжо неіснуючая краіна СССР. Гэты ядзерны монстр, з яго шматкольскасным войскам, моцнымі спецслужбамі, агентурай па ўсім свеце, кіруючай роляй Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, усёахопліваючай сеткай ідэалагічных работнікаў і татальным кантролем не толькі над усімі працэсамі, якія адбываліся ў грамадстве, але і над кожным грамадзянінам гэтай краіны, рассыпаўся як картачная хатка. Уся яго расхваленая моц аказалася проста пылам.

Гэтыя працэсы натыкаліся на жорсткі супраціў тых, хто быў тады пры ўладзе і чапляўся з апошніх сіл за магчымасць замарудзіць развал СССР, каб у хуткім часе ўзяць рэванш. А ў Беларусі, дзе мясцовы наменклатурны апарат па сутнасці праводзіў выключна пракрамлёўскую палітыку, гэты супраціў быў дастаткова моцны. Камуністы мелі большасць у Вярхоўным Савеце БССР. Але актыўнасць фракцыі БНФ, якая заклікала беларусаў прыйсці на плошчу, каб бараніць сваю волю, і шырокая падтрымка гэтай фракцыі ў беларускім грамадстве далі свой плён.

Здавалася нішто не пагражае ўжо ні беларускай незалежнасці, ні беларускай дэмакратыі. Але ў хуткім часе за ўладу пачалі змагацца людзі, якія развал Савецкага Саюза называлі асабістай трагедыяй. Загаварылі пра магчымы ўвод расійскага рубля. Пра інтэграцыю з Расіяй...

Зараз, праз 21 год пасля той знакамітай падзеі, мала хто ўспомніў пра яе. Дзяржаўныя СМІ у Беларусі, якія маюць манаполію на распаўсюд і адбор інфармацыі, сціпла абышлі гэтую тэму бокам. Патрыятычныя выданні, у асноўным інтэрнэт-сайты, павіншавалі суайчыннікаў з гістарычнай датай. Але ніхто не адважыўся задаць пытання: а што засталося зараз, праз больш чым два дзесяткі гадоў, ад тых заваёў?

Ёсць назва нашай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Ёсць свая Канстытуцыя, дзе запісана, што мы незалежная краіна. Але ёсць і нейкая саюзная беларуска-расійская дзяржава. Ёсць свае грошы. Але размовы пра ўвядзенне ці то агульнай грашовай адзінкі саюзнай дзяржавы, ці то нават расійскага рубля вядуцца ўвесь час. А беларуская мова больш не мае статуса адзінай. На паперы ёй роўная руская. На практыцы беларуская мова выціснутая з ужытку амаль цалкам і знаходзіцца ў горшым стане чым пры Савецкім Саюзе, калі на тэрыторыі БССР беларускамоўныя школы там-сям яшчэ захоўваліся, і на тэлебачанні, і ў дзяржаўнай прэсе яна займала значна большае месца, чым у цяперашняй незалежнай краіне. За бел-чырвона-белыя сцягі людзі адбываюць турэмныя пакаранні. Дэмакратыя цяпер ледзьве не мацерное слова. А многія краіны, якія з радасцю прынялі факт нашай незалежнасці, зараз разглядаюцца амаль не як патэнцыйныя агрэсары. Са свабодай слова зараз лепш не жартаваць. А галоўны здабытак, пазбаўленне страху ў грамадстве, уцёк ад страху...

Дык што ж засталося? А засталіся мы, беларусы. Мы здаўна тут былі, і ёсць зараз. І той, хто жадае прагльнуць нашу незалежнасць, дарэмна забываецца пра гэта. У нашай гісторыі ўжо неадночы была наша 25-я дата. І будзе зноў.

Віктар САЗОНАЎ



# Каб было ўсё ясна

Паводле Талмуда Бог стварыў перад вядомым нам светам іншыя светы, якія Яго не задаволілі. „Таму ствараў і знішчаў, ствараў і руйнаваў, аж стварыў ён свет, аб якім мог сказаць, што ўсе Яго рэчы былі добрыя". Ды каб было ясна! На тэму нашага свету я мяркую крыху інакш. З Госпадам Богам аднак не выпадае за гэта публічна спрачацца. Іншая справа, што сёння гэта *passe*. Рышард Капусцінскі, вядомы рэпартажыст, зафіксаваў калісьці такую сумную рэфлексію: „Паскаль, Кіркегор, Салаўёў спрачаюцца з Богам. Хто яшчэ сёння спрачаецца з Богам?". У час распаўсюджанага ва ўсёй Еўропе атэізму гэтае пытанне адказвае само за сябе, хаця неабавязкова дарэчна. А ўжо Тэртуліян, ранні апалагет хрысціянства, адказваў: „Веру, бо гэта недарэчнае", што было мабыць развіццём заўвагі Арыстоцеля, што „калі хтосьці абвяшчае нават недарэчную праўду, а з'яўляецца сур'ёзным чалавекам, дык трэба яму паверыць". Дык вось, калі недарэчным камусьці здасца мая думка, што Грабарка, якая на сёлетнім свяце гасцявала Кірыла, кіраўніка Расійскай Праваслаўнай Царквы, дакранулася да Неба, дзякуючы гарачай малітве дзесяткаў тысяч вернікаў, нічога з гэтым не магу зрабіць. Хто не верыць, хай не верыць. Вяртаючыся да нашага свету, дык калі Госпад Бог настойвае на тым, што ўсе яго рэчы вельмі добрыя, ну што ж я, кладу свае вушы па сабе. За адным выключэннем. Спрачаюся з Ім за Беларусь. Бо ці пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі яна з гэтага свету? Ці не заблыталася Яму выпадкам, як той аскепак з разбітага гаршка, калі ляпіў новы? Бо можа быў такі стомлены, што махнуў рукою на такую маленькую хібу? Ну, хіба то гэта быў Ягоны план. Урэшце ж, як прыкмеціў раннесярэднявечны эстэтык Эпедокл, дасканалым з'яўляецца тое, што безупынна кіруецца да дасканаласці. Ды каб было ясна! Я сумняваюся, ці пад кіраўніцтвам Лукашэнкі Беларусь накіроўваецца кудынебудзь, хаця пра саму Беларусь нельга сказаць злое слова. Пра беларусаў таксама. Гэта прыстойны народ. Толькі што пра Лукашэнку таксама нельга нічога кепскага сказаць. Прынамсі ў Беларусі, бо зараз міліцыянеры ў морду валяць і валакуць у лагер. На жаль, нельга таксама сказаць аб ім нічога добрага. Ды пытаюся, што можна сказаць?! Ну аб тым,

што Беларусь стала касмічнай магутнасцю, гэта нават трэба сказаць! Якраз Аляксандр Лукашэнка паінфармаваў аб гэтым свет, не хаваючы імперскага гонару: „Мы выстралілі ўласны спадарожнік! Мы стварылі таксама прадпрыемства, якое само зможа вырабляць спадарожнікі". А праўда такая, што выстралілі яго, але расіяне і не нейкі там імпазантны спадарожнік, толькі тэледэтэктар не большы ад лялечнай хаткі, а і то пры нагодзе, бо перш за ўсё адправілі ў космас расійскія, канадскія і нямецкія прылады — рашуча аднак большыя і значна больш перадавой тэхналогіі. Затое прадпрыемства для вырабу спадарожнікаў гэта ледзь мануфактурка, якая гетэратрофна прыклеілася да нейкага даследчыцкага інстытута быццам грыб да спарахнелай бярозы. Ды каб было ясна. Я ў ніякім выпадку не намякаю, што беларусы ўмеюць толькі кляпаць косы. Інтэлектуальна маюць такі самы патэнцыял як кожны іншы народ і таксама маюць чым пахваліцца. Толькі што не кожным народам кіруе такі Лукашэнка, які ўсе дзяржаўныя ўстановы, а праз іх грамадзян, трымае коратка за мызу, быццам бы яны былі непапраўнымі зладзюгамі і бандытамі. У апошні час быццам бы стаў думаць інакш. Вось адмаўляючы чутку, што аддаў у дэпазіт заходнім банкам агромную маёмасць, не міргнуўшы вокам — што, як кажуць, з'яўляецца меркай шчырасці — сказаў: „Наша дзяржава гэта вострая сумленнасці і справядлівасці. Ведаюць аб гэтым у Беларусі і за мяжой". Ой, веды, веды... Ды каб было ясна! Не цікавяць мяне сакрэтныя рахункі Лукашэнкі. Мяне хвалюе справа брушніцы, якая сёлета даспела ў Беларусі і прычым вельмі буйна. Пасмела яна аднак гэта зрабіць да тэрміну назначанага ўладай. Ад 25 жніўня — калі ласка, можна яе збіраць! Толькі ці на гэтых лясных кусціках засталася хоць адна ягадка? Ды каб было ясна! Мне беларускія брушніцы непатрэбныя. Назбіраў я іх столькі, колькі мне было трэба ў польскіх лясах. Ужо тры тыдні таму. Бо ў Польшчы даспяваюць яны калі хочуць. І збірае іх хто хоча і калі хоча — нават калі яны яшчэ няспелыя. Ды без перабольшання! Бо каб было ўсё ясным, перабольшанне бывае час да часу смешным, ды жалюгодным — заўсёды.

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Неўралгічная Семяноўка



У рэшце рэшт рушыць пабудова чыгуначнага польскага еўрасаюзна-беларускага пагранперахода ў Семяноўцы. Падляшскі ваявода Мацей Жыўна ў апошні час у прысутнасці журналістаў падпісаў адпаведную дамову з яго выканаўцам, фірмай, якая будавала ўжо м.інш. варшаўскія Залатыя тэрасы, аэрапорт у Ясёнцы непадалёк Жэшава ці паўночны адрэзак аўтастрады А1 ды лічыцца „найбольш каштоўнай у будаўнічай галіне" на думку тыднёвіка „Палітыка" і штодзёнкі „Rzeczpospolita". Я пісаў ужо ў „Вачах" недзе год таму, што інвестыцыя будзе рэалізавацца са сродкаў дзяржбюджэту і Швейцарска-Польскай праграмы супрацоўніцтва. Цалкавіты кошт гэтага праекта складае каля 17,5 мільёна злотых (85 прац. — з праграмы супрацоўніцтва са швейцарцамі). Інфраструктура стане на трох з паловай гектара, якія нараўчанскі войт перадаў на гэтую мэту ў форме дару. Узнікнуць тут між іншым будынкі Памежнай аховы і Мытнай службы, будынак фітасанітарнага кантролю, падстрэшкі, перагрузачная рампа. Пасля збудавання асноўных аб'ектаў пагранперахода атрымае яшчэ сканеры для перасвечвання вагонаў. Да гэтай пары не выконваў ён адпаведных стандартаў, каб спраўна праводзіліся тут мытны кантроль і перагрузкі пад мытным наглядам, каб была плаўная магчымасць заяўлення акцызных тавараў, завожаных на тэрыторыю Еўрасаюза. Пабудова мае завяршыцца ў лістападзе 2013 года. Памежная ўстанова ў Семяноўцы будзе перш за ўсё адыгрываць важную ролю ў гандлі драўнінай, сельскагаспадарчымі і харчовымі таварамі. Як сцвярджаюць службы падляшскага ваяводы, „рэалізацыя мерапрыемства мае неўралгічнае значэнне дзя развіцця прадпрымальнасці на гэтай тэрыторыі, асабліва звязанай з перавозам і абаротам драўнінай". Пасля падпісання дамовы з фірмай, якая зоймецца пабудовай пагранперахода, ваявода Жыўна так мне растлумачыў тое сцвярджэнне:

— Перш за ўсё таму, што гэта будзе чыгуначны пагранпераход. Такіх пераходаў, добра абсталяваных, увогуле няшмат на ўсходняй мяжы: польска-беларускай і польска-ўкраінскай. Пабудова там будынкаў фітасанітарнага кантролю і павялічваючых магчымасці памежнага і мытнага кантролю азначае, што чыгуначны транспарт які адбываецца тудою, а маем дасюль штогод дваццаціпрацэнтны яго рост, будзе заахвочваннем для разнародных фірм, якія, дарэчы, вакол пагранперахода ў Семяноўцы ўжо будуюцца. Гэта ёсць транспартныя і спедыцыйныя фірмы, атрымальнікі тавараў. Гэта ёсць шанц і для ПКП праз павелічэнне магчымасці перавозу тавараў чыгункай і выкарыстанне перагрузачнай станцыі. Козырам Семяноўкі з'яўляецца тое, што там ёсць два віды пуцей: тыя шырокія і тыя вузкія, значыць, у заходнееўрапейскім і ўсходнім стандарце.

Пры нагодзе ваявода дадаў:

— Цяпер гэты пагранпераход у трагічным становішчы. Мытныя і памежныя службы працуюць там практычна ў бараках, а кантроль праводзіцца пад г.зв. хмаркай. Паўтару: адкрыццё ў Семяноўцы фітасанітарнага пункта дазволіць такія тавары як алеі і драўніну пускаць праз гэты пагранпераход. Фітасанітарны кантроль узялі мы на сябе і будзе праводзіцца ён на нашым баку. Ёсць вялікае зацікаўленне беларускага боку паскарэннем пабудовы пагранперахода. Я гарантую, што ён хутка ўзнікне, у параўнанні з іншымі падобнымі пабудовамі. Разлічваем на тое, што беларускі бок падтрымае сваё зацікаўленне і будзе заахвочваць прадпрымальнікаў карыстацца ім таксама на іхнім баку мяжы. Мытны кантроль хочам павялічыць тут прынамсі на дзвесце працэнтаў.

Так вось на польска-беларускай мяжы з'явіцца чарговы вялікі, сучасны пагранпераход. На жаль, туга ідуць працы, а хутчэй польска-беларускія размовы аб іх, звязаныя з меншымі пагранпераходамі — тыпова турыстычнымі: пешаверасіпедным у Белавежы і водным Рудаўка-Лясная. А якраз такіх пагранпераходаў прыдалося б больш.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Даследаванне зла

## Гутарка з Канстанцінам МАСАЛЬСКІМ, аўтарам кнігі са зводным пералікам праваслаўных жыхароў Беласточчыны, якія загінулі ў 1939-1956 гадах.



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

*— Нядаўна выйшла кніга „Księga pamięci prawosławnych mieszkańców Białostocczyzny, ofiar wydarzeń z lat 1939-1956", падпісаная Вашым прозвішчам. Ці гэта толькі Вы збіралі да яе матэрыялы, ці яшчэ хтось?*

— Я працаваў толькі сам адзін, з 1997 года.

*— Значыць пятнаццаць гадоў…*

— Не, я завяршыў яе падрыхтоўку ў 2008 годзе.

*— Дык Вы збіралі матэрыялы адзінаццаць гадоў, а чатыры гады занялі захады дзеля яе выдання. Адзінаццаць гадоў гэта даволі доўгі перыяд…*

— Працу я пачаў з моманту заснавання згуртавання будовы помніка праваслаўным, што загінулі ў ваенны і пасляваенны перыяд. Я дайшоў да вываду, што такі помнік не можа быць ананімны і трэба знайсці і паказаць усіх тых людзей, якім гэты помнік прысвечаны. Першыя крокі я скіраваў у беластоцкі Дзяржаўны архіў. Дырэктар Марэк Кетлінскі даў мне магчымасць пазнаёміцца з усімі дакументамі датычнымі гэтай справы; я яму за гэта вельмі ўдзячны. Я там перагледзеў усе дакументы: дакументы былой Камісіі даследавання гітлераўскіх злачынстваў — зводкі, рапарты, увагі ды паведамленні солтысаў, гмінных устаноў і пастарункаў Грамадзянскай міліцыі. Цікава, што часта тая самая асоба ў розных дакументах мела па-рознаму пісаныя прозвішчы або розныя імёны. І калі маеш два такія дакументы, трэба знайсці трэці, каб сцвердзіць, якое імя правільнае. Для прыкладу, раз у чалавека выступае імя Люцыян, а ў іншым дакументце Лукаш, або Артур — Арцём. Таксама былі розныя даты нараджэння ці смерці і яе абставін у розных дакументах датычных адной і той жа асобы. Я прабаваў кантактавацца са старэйшымі людзьмі і распытваць пра тых ці іншых пакойных асоб і здаралася так, што расказвалі яны мне зусім розныя версіі смерці нейкага пакойніка. Я тады рашыў, што нечага далей распытваць людзей, толькі абаперціся ўсё ж такі адно на дакументы.

*— Але дакументы таксама пісалі людзі паводле сваіх суб'ектыўных версій…*

— Так, толькі я тут мог спасылацца на акты, што калі дзе і была памылка, дык не ў мяне. Я даследаваў гэтыя дакументы ды яшчэ дакументы гродскіх судоў Беластока, ды Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага, Сакольскага ды Сямятыцкага паветаў, у якіх таксама былі абставіны смерці, бо пасля вайны многія людзі выступалі ў суды дзеля прызнання пакойнымі сваіх блізкіх, што не вярнуліся з вайны. І яшчэ — дзякуючы прафесару Яўгену Міранoвічу я атрымаў дазвол даследаваць акты беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці (ІПН). Даследаваў я яшчэ дакументы Ваяводскага суда, шукаў інфармацый у кніжных фондах бібліятэк ды выязджаў на могілкі шукаць канкрэтных магіл. Пазней я дома аналізаваў кожную знойдзеную вестку і калі бывалі нейкія сумненні я зноў шукаў іх высвятлення.

Кніжка атрымала рэцэнзію ў 2010 годзе, а пасля пачаў хадайнічаць за грашамі на выданне гэтай кнігі. З Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі не далі, з Маршалкоўскай управы — не далі, з Гарадской управы таксама нічога. Толькі гайнаўскі староста, бурмістр горада Бельск-Падляшскі, войт Шудзялаўскай гміны, бурмістр Харошчы ды Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве дапамаглі мне. А нашы праваслаўныя гміны адмовіліся. І дзякуючы раней названым чатыром установам мясцовага самакіравання і КЦБ стала магчымым выданне гэтай кніжкі. Зацікаўленне кнігай пакуль добрае. Але вось паехаў я ў адну гмінную ўправу, якая абяцала, што кніжку купіць, а калі я туды з'явіўся, сказалі што задарога.

*— Не можаце сказаць, якая гэта гміна?*

— Пакуль не хачу.

*— А з „усходу" яна ці з „захаду"?*

— Наша. Вось Шудзялаўская і Харашчанская гміны, дзе большасць складаюць католікі, падтрымалі выданне маёй кнігі, а нашы праваслаўныя гміны адмовіліся спасылаючыся на нястачу грошай.

*— А калі гэта было? Бо Шудзялаўская гміна з'яўляецца бадай найбольш задоўжанай у нашым ваяводстве…*

— У гэтым годзе.

*— Па колькі менш-больш гадзін у суткі Вы расходавалі на гэтую кніжку?*

— Калі я даследаваў дакументы ў названых установах, то я рабіў гэта зранку, у іх працоўны час. Пасля ішоў дадому, абедаў і аналізаваў гэта ўсё. Бывала і так, што з Дзяржаўнага архіва хацеў яшчэ зайсці ў чытальню Ваяводскай бібліятэкі, тады абедаў у тым часе ў „Слонэчку". Прызнаюся, што ў мяне тады асабістага жыцця не было.

*— Цяпер я павярну ў крыху іншы бок. Нядаўна я праходзіў каля вёскі Крынкі-Саболі, што між Гродзіскам і Сямятычамі, там жвіравы кар'ер, перад якім стаіць крыж. На ім інфармацыя пра расстрэл трох братоў Касцюкоў: Якуба з Чорнай-Царкоўнай, Юзафа і Уладыслава з Ляхоўкі. У Вашай кніжцы згадваецца толькі адзін.*

— А яны праваслаўныя былі?

*— Я не ведаю. Але гэта родныя браты былі.*

— Згаджаюся. Першы быў праваслаўны, а той другі перайшоў на каталіцызм.

*— А адкуль ведаеце, што перайшоў?*

— У дакументах знайшоў, што пахаваны на каталіцкіх могілках, у ІПНе знайшоў што на каталіцызм перайшоў. Мяне таксама задзівіла, што двух братоў і пахаваныя яны на розных могілках.

*— Але тут трох братоў…*

— А таго трэцяга не маю.

*— А той першы праваслаўны быў?*

— Напэўна. Быў яшчэ іншы выпадак, Ружанасток; чалавек пахаваны на каталіцкіх могілках у Ружанастоку. А пасля я выпадкова знайшоў, што пазней была эксгумацыя і яго перанеслі на праваслаўныя могілкі. І яшчэ два выпадкі: адзін з Валіл, а другі недзе ад Сямятыч. Сям'я праваслаўная, імёны праваслаўныя, бацькі праваслаўныя, а яны католікамі. І аказалася, што яны атрымалі ад біскупа пермісію на пераход у каталіцтва. Чаму так сталася? Бо яны да вайны працавалі на чыгунцы і ім паставілі ўмову, што захаваюць працу, калі пяройдуць у каталіцтва.

*— Я яшчэ вярнуся да братоў Косцюкаў. Іх жа немцы пабілі не за тое, што*




*яны былі праваслаўнымі. І я так думаю пра тых усіх іншых амаль пяць тысяч, якіх Вы падаяце ў сваёй кнізе. Нават узяўшы пад увагу таго „Бурага" ці „Лупашку" — яны ж за праваслаўнымі не ганяліся, бо ж тады білі б усіх, а яны разглядаліся толькі за тымі, хто супрацьстаяў іхнім мэтам. І вось Вы падлічылі, пакласіфікавалі тых людзей — таго туды, таго сюды, як сваты Пётр. Але ці Вы падумалі, адкуль тое зло бярэцца? З чаго ўзяліся тыя ахвяры, амаль пяць тысяч у Вас і яшчэ больш, бо ж няма ў іх ліку жыдоў і іншых, якіх забрала вайна?..*

— Паводле мяне праваслаўных бралі на прыцэл таму, што яны не акцэптавалі польскага падполля, бо яно выступала за прадаўжэнне дыскрымінацыйнай Другой Рэчы Паспалітай.

*— Але ж яны не ўсіх праваслаўных білі, яны рабілі гэта селектыўна, падбіраючы актывістаў.*

— Не толькі актывістаў, я гэта магу сказаць на прыкладзе маёй мясцовасці…

*— Але Вы ведаеце адкуль бярэцца зло?*

— Адкуль?

*— Калі чалавек мае нагоду здзейсніць зло, то ён часта гэтай нагодзе паддаецца. А Ваша кніга ахопліве гады 1939-1956 — гэта ваенныя і пасляваенныя гады. Гэта вайна прынесла тое ўсё зло. Людзі атрымалі нагоду здзяйсняць зло. Вось жа нядаўна ў Іраку быў жорсткі прыклад калі пераможцы ўсяляк здзекаваліся над палоннымі. Пакуль не было такой нагоды для зла, то яго не было, але калі яны атрымалі нявольнікаў, тады з'явілася нагода, якой яны пакарысталіся. Падобна было і тут, бо ў нас нагоду стварыла вайна. Вы быццам падказваеце, што зло здзяйснялі іншаверцы. А нашы то добрыя былі? Іх зло не спакушала?*

— Ну, немцы выкарыстоўвалі беларускую паліцыю супраць палякаў, а польскую супраць беларусаў.

*— Значыць, немцы стваралі нагоду здзейсніць зло. У кожную вайну з некаторых людзей вылазіць найгоршае. І я, вось, не надта пагаджаюся з агульнай вымовай Вашай кнігі, таму што яна надта аднабаковая.*

— Я стараўся паказаць справы аб'ектыўна.

*— Вы пішаце ва ўступе, м.інш., што адзіным аргументам узброенага падполля для ліквідавання праваслаўных жыхароў Беласточчыны было іхняе веравызнанне. Я з гэтым не згаджаюся.*

— Маеце права не згаджацца.

*— І гэтых злачынстваў дапускаліся тыя, што маглі іх здзейсніць, што мелі зброю. Найчасцей гэта былі чужыя людзі, здалёк. У сябе хіба ніхто такога не ўчыняў.*

— Не згаджаюся. Канкрэтна — у Фальварках, у суседняй вёсцы. Чужых не было, а ўсе свае. У Міхалове і Заблудаве гэтаксама — усе мясцовыя. Чужыя маглі быць у Сямятыцкім, куды папрыязджалі віленшчакі, а тут, у нас — свае; мой бацька іх пазнаваў.

*— А чаму свае? Бо мелі зброю, мелі нагоду здзейсніць зло і здзяйснялі.*

— Рабавалі. Майго бацьку пабілі так, што два тыдні ляжаў. І выганялі ў Саюз.

*— Але гэта было ў памечаны Вамі час: з 1939 да 1956 года. А раней і пазней не было.*

— Не было. Але зло пачалося да вайны.

*— Так, зло тліца ў людзях, а вайна яго вызваляе навонкі і Вашы часовыя рамкі самі падказваюць з чаго яно вырвалася. І яшчэ адно пытанне: хто меў зброю — праваслаўныя ці католікі?*

— Католікі.

*— А калі б было наадварот, тады як было б?*

— Не ведаю.

*— Дзякую Вам за скрупулёзную апрацоўку абранай Вамі тэмы і за размову.*

**Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

***У Беластоку кніжку можна набыць у Цэнтры праваслаўнай культуры, у Галоўным праўленні БГКТ, у прыходах Святога Духа на Антонюку і св. Ільі на Дайлідах.***

## Уразіла мяне сардэчная атмасфера

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы дае прыклад плённай дзейнасці ў беларускім асяроддзі, доказам чаму з'яўляюцца фэсты з цыкла „І тут жывуць людзі". Нядаўна, 5 жніўня, дваццаць пяты па чарзе такі фэст адбыўся ў вёсцы Камень Чыжоўскай гміны. У спякотную нядзелю каля вясковага клуба сабралася шматлікая публіка — не толькі мясцовыя жыхары, але і з навакольных вёсак: Тыневічь-Вялікіх, Курашава, Навінкі, Максімаўшчыны, Уснаршчыны, Катлоўкі і іншых, а нават з Гайнаўкі, Бельска, Нарвы і Беластока. Вёска Камень у гэты дзень расцвіла каляровымі касцюмамі артыстаў, а шырокая вуліца стала вузенькай, калі паабапал яе выстраіліся калонамі легкавушкі і аўтобусы. Святочнага настрою дадавалі таксама ларкі з напоямі, ласункамі і цацкамі.

Фэст адкрылі і прамовілі войт Юры Васілюк і дырэктар музея Тамаш Ціханюк. Затым за работу ўзяліся Паўліна Паўлючук і Марыёля Герман, якія прафесіянальна, бліскуча, на прыгожай беларускай мове павялі канцэрт. Выступілі „Чыжавяне", „Дэкада-банд", „Нарва", „Арт-Пронар", „Збучанкі", „Незабудкі", „Цаглінкі", „Шарыён", „Сказка". Трэба сказаць, што калектывы ствараюць і прапагандуюць родныя песні, захоўваюць і ўзбагачаюць нашыя лепшыя традыцыі. Іх выступленні адыгрываюць станоўчую ролю ў выхаванні маладога пакалення, прывіваючы яму любоў да роднага.

Першыя некалькі хвілін, калі сталі спяваць „Цаглінкі", гледачы слухалі моўчкі. Потым загарэліся ў іх вочы і раздаліся гучныя, працяглыя апладысменты. Мая субяседніца з Нарвы, прыгожая і сімпатычная дама, сказала мне: „Вось табе і на! „Цаглінкі" паказаліся, адспявалі на ўсю катушку".

Я рады, што ў гэты нядзельны дзень меў магчымасць не толькі слухаць родныя песні, але і сустрэцца з многімі знаёмымі. Фэст у вёсцы Камень быў падрыхтаваны старанна, умела, з густам. Перш за ўсё ўразіла мяне сардэчная атмасфера, якую стварылі галоўныя арганізатары мерапрыемства — Чыжоўская гміна ды Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Цешаць мяне ўсе беларускія фэсты, бо яны спрычыняюцца да інтэграцыі нашага асяроддзя. **Віктар БУРА**

## Больш камунальных кватэр

У канцы жніўня г.г. у Беластоку ў найноўшы жылы блок па вуліцы Барсучай прыйдуць жыць новыя кватэранаймальнікі. Кватэры пабудавала гміна. На пабудову камунальных памяшканняў Беласток прызначыў 7 мільёнаў злотых.

Гарадскія ўлады запланавалі наступныя такія інвестыцыі — два чарговыя блокі па вуліцы Кляпацкай.

Новы жыллёвы пасёлак пабудуюць па вуліцы Бэма, за сядзібай пагранічнікаў. Тут гміна мае восем гектараў і хоча на іх пабудаваць дамы. У першым этапе горад паставіць тры жылыя блокі. Будзе ў іх больш за сто памяшканняў для незаможных беластачан.

Ужо гміна мае дазвол на пабудову. **(яц)**

# Спасаўскія запусты
## ў Бельску-Падляшскім і Дыдулях



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**«Спасаўскія запусты» ў Бельску-Падляшскім гэта ўжо культурны брэнд. Ладзяць іх бяльшчане, якім важнае захаванне беларускай мовы, культуры і нашых традыцый. Згуртаваныя яны, між іншым, у павятовым аддзеле БГКТ і наваствораным аб'яднанні «Бельская кааліцыя». Суарганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Бельскі дом культуры. Раней «Бельская кааліцыя», як выбарчы камітэт, кожныя чатыры гады вылучала кандыдатаў у дэпутаты Рады Бельскага павета, Рады горада Бельск-Падляшскі і суседніх гмін, а таксама кандыдатаў на бурмістра і войтаў суседніх гмін і таму гэтая назва добравядомая жыхарам Бельскага павета. У час XVIII выпуску «Спасаўскіх запустаў» 12 жніўня ў гарадскім амфітэатры выступілі беларускія калектывы Беласточчыны і калектыў «Ніва» з Рэспублікі Беларусь. Раней у рамках гэтых жа запустаў частка выступаючых у Бельску калектываў запрэзентавалася перад жыхарамі Дыдулёў Арлянскай гміны.**

Спасаўскі пост, які называецца ў нас таксама *Спасаўкай*, гэта не толькі частка праваслаўнага веравызнання, але таксама нашая вельмі доўгая традыцыя. Гэты перыяд папярэджвалі спевы і гульні, якія перапляталіся з цяжкай працай у час жніва. Бывала, што *Дажынкі* супадалі з *Запустамі* і пасля спеваў на полі, найчасцей у святочны дзень, адбываліся спевы і гульні ў вёсках. Гэтую традыцыю стараюцца захаваць бяльшчане, арганізуючы запусты ў апошнюю нядзелю перад «Спасаўкай» і прэзентуючы жніўныя і іншыя абрады.

— Спасаўскія запусты адбываюцца ў час, калі прырода яшчэ развітая. Спевам і гульням спрыяе прыгожая, акружаючая нас прырода. Пасля *Дажынак* і спадарожнай ім весялосці прыходзіць *Спасаўка*, час на спакойныя роздумы і рэфлексію. Пост канчаецца святкаваннем у гонар Успення Прасвятой Багародзіцы, якое з'яўляецца таксама святам ураджаю. Тады адбываецца асвячэнне сабранага плёну, — сказала галоўны інструктар па тэатральных занятках Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік, якая ўдала вяла мерапрыемства на сцэне і разам з дырэктарам Сяргеем Лукашуком сачыла за яго арганізацыяй па-за сцэнай.

Альжбета Фіёнік апякуецца тэатральным гуртком «Антракт» у Бельскім доме культуры, якога ўдзельнікі, разам з іншымі дзеткамі з Бельска-Падляшскага, падрыхтавалі прыгожае выступленне, прэзентуючы веснавы абрад *Рагулькі* і летні абрад *Зажынкі*. Вучні, апранутыя ў прыгожую, стылізаваную на народную вопратку ўдала вадзілі карагоды, спявалі даўнія песні і вялі размовы аб прыродзе і палявых работах на мясцовай беларускай гутарцы.

— Як *Рагулькі*, так і *Зажынкі* гэта вельмі цікавыя абрады, з якімі дзеткі маглі пазнаёміцца ў час летніх заняткаў у Бельскім доме культуры. Спачатку вучні былі здзіўлены, бо цяпер маладыя людзі наогул мала ведаюць аб даўніх абрадах, але пасля спеваў і карагодаў выклікалі вялікае зацікаўленне ў дзетак, — гаварыла Альжбета Фіёнік. — Вялікім выклікам для мяне было за кароткі час летніх сустрэч падрыхтаваць дзетак да выступаў перад вялікай публікай. На занятку апрача членаў «Антракту» прыходзілі таксама вучні, якія не займаюцца пастаянна ў нашым доме культуры. Аднак сённяшні выступ выклікаў задавальненне ў дзетак і з'яўляецца добрай падзякай за іх частыя рэпетыцыі.

Адважны выступ бельскіх дзетак вельмі спадабаўся публіцы ў амфітэатры, якая моцна апладзіравала наймалодшым выступоўцам. Наогул сонечнае надвор'е спрыяла мерапрыемству пад адкрытым небам. Дзеткі сталі гуляць на пляцоўцы, распалажанай паміж публікай і сцэнай, а частка наймалодшых гуляла ў невялікім, спецыяльна для іх падрыхтаваным гарадку.

— Мы аднасна нядаўна, толькі сёлета вясной, напісалі статут і зарэгістравалі аб'яднанне «Бельская кааліцыя». Раней перад кожнымі самаўрадавымі выбарамі арганізавалі мы аднайменны выбарчы камітэт і з яго спіскаў змагаліся за перамогу. Як зарэгістраванае аб'яднанне можам ужо і цяпер збіраць сродкі на нашую дзейнасць і на бліжэйшыя самаўрадавыя выбары. Так як і раней плануем вылучаць сваіх кандыдатаў у Бельску і іншых мясцовасцях Бельскага павета, — сказаў мне Аляксандр Божка, член рэвізійнай камісіі аб'яднання «Бельская кааліцыя», які ад імя арганізатараў «Спасаўскіх запустаў» (належыць таксама да павятовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім) вітаў публіку. Старшынёй аб'яднання «Бельская кааліцыя» быў выбраны віцэ-старaста Бельскага павета Пётр Божка, а ва ўправу ўвайшоў, між іншым, дырэктар бельскай «тройкі» Васіль Ляшчынскі, які якраз разам са сваімі вучнямі-спартоўцамі пабываў на спартыўным абучэнні і не змог прыняць удзелу ў бельскім мерапрыемстве.

— Удала прайшлі выступы ў Дыдулях. Публіка там нас вельмі цёпла ўспрыняла, — заявіў Мікола Фадзін, музычны кіраўнік «Арлян» і бельскіх «Васілёчкаў». Першыя выступілі ў час «Спасаўскіх запустаў» у Дыдулях, а другія перад бельскай публікай. «Васілёчкі» ў час ранейшых бельскіх запусных мерапрыемстваў паказвалі жніўныя абрады, а сёлета цікава выступілі з беларускімі эстраднымі творамі.

— Абрадавыя жніўныя песні мы спявалі пры нагодзе прэзентацыі абрадаў. Сёння заспяваем нашыя прыгожыя народныя песні, — сказала Галена Саковіч з «Васілёчкаў». У Дыдулях спявалі яшчэ «Малінкі» з Маліннік, «Вервачкі» з Орлі, бельскія «Маланка» і «Куранты». На выступы ў Дыдулі прыбылі суарганізатар мерапрыемства, арлянскі войт Пётр Сэльвесюк, які двойчы быў выбраны на сваю пасаду ад выбарчага камітэта «Бельская кааліцыя».

— Як на Дыдулі, невялікую вёску, то прыйшло на выступы многа людзей, — сказаў іншы ўдзельнік вясковага канцэрта. Ад нейкага часу перад асноўным канцэртам, арганізаваным у рамках «Спасаўскіх запустаў» у Бельску, ладзяцца вясковыя канцэрты і ў гэтым годзе арганізатары мерапрыемства рашыліся на невялікае сяло Дыдулі.

— Вельмі прыгожае надвор'е, файная публіка, сярод якой побач арлянскага войта прысутнічаў таксама бацюшка з Вулькі-Выганоўскай, і смачны пачастунак — гэта тое, што запамятаем з выступаў у Дыдулях. Асабліва смакавала нам *кішка*, — гаварылі Лідзія Маліноўская і Жэня Барысюк з бельскай «Маланкі». — Мы ад самага пачатку выступаем у час «Спасаўскіх запустаў» і нам гэтае мерапрыемства вельмі падабаецца. Спяваем мы перш за ўсё энергічныя песні.

Хаця спачатку паявіліся праблемы з тэхнікай, то пасля ўдала выступілі маладыя людзі з калектыву «Луна» з Беластока. Калектыў дзейнічае з 2008 года, а ў Бельску-Падляшскім запрэзентаваўся толькі ўпершыню.

У бельскім амфітэатры выступілі яшчэ бельскія «Куранты», гайнаўскі «Прагрэс» і арлянскія «Вервачкі». Усе калектывы выступалі на свой спосаб цікава, але адметным і асабліва займальным атрымаўся выступ Народнага ансамбля песні і танца са свойскім названнем «Ніва» з Верталішскага цэнтра культуры ў Беларусі, які сябруе з бельскім калектывам «Васілёчкі». Спевакам і танцорам гэтага гурту спадабаліся выступы ў Бельску-Падляшскім. Яны ахвотныя вяртацца сюды ў будучыні, паколькі будзе працягвацца іх сяброўства з «Васілёчкамі». «Спасаўскія запусты» гэта таксама інтэграцыя калектываў Бельшчыны, якім важная не толькі беларуская песня, але таксама беларуская культура і традыцыя.

# На хвалі святой камерцыі (4)

Фота і тэкст Евы СЦЕПАНЮК

**У канцы „Аповесці пра пакутніка Меркурыя Смаленскага" шакіруюць сакавітыя, народныя сцэны. І адначасова, як усякія этнічныя аздобы, яны ацяпляюць свойскім духам персанаж, у нашым выпадку, таемны і з рымскага свету...**

Калі наш святы страціць у баі галаву, ён нечакана стане на ногі, возьме ў адну руку сваю адсечаную галаву і, быццам нічога не сталася, пойдзе дастойным крокам у Смаленск. За брамай сустрэне яго дзябёлая жанчына. Ад здзіўлення смалянчанка вытрашчыць вочы, прыадкрые рот, падапрэцца рукамі на клубах, ды, адчакаўшы момант, кінецца на цудака з ардынарнымі мацюкамі. Абазве яго ад скамарохаў і цыганоў, сплюне ў знак пагарды. Цела пакутніка, хоць без галавы, выдатна разумее мясцовую мову смалянчанкі. Меркурый, як і належыць асобе з княжага роду, дазволіць кабеце на агрэсіўнае шоў. Пасля яе *выступлення* ўпадзе нежывы і будзе ляжаць каля варот тры дні. Ніякі асілак, коні, ні механічная сіла не дадуць рады паднячь яго з зямлі. Паводле легенды, сама Багародзіца прыбудзе ў гэтае месца, падыме абаронцу горада з зямлі і тайком перад светам занясе ў царкву.

Чытача шакіруе як безгалоўе святога дапаўняецца тут з пляткарскім іміджам смалянчанкі. Няма сумненняў, што дзякуючы гэтаму бабішчу вестка пра цуд вокамгнення акружыць горад і цэлае княства, і як нож у сала патрапіць у сэрцы і густ народу.

* * *

Едучы на экскурсію на поўдзень кантынента, я шчаслівa адключылася ад усякіх тэлефонаў і фейсбукаў, каб свабодна сабе дыхаць экзатычным краявідам. Мая наіўнасць аказалася бязмежнай. Свойскі пах не пакідаў ні на крок. Яшчэ ў дарозе я засвоіла тэндэнцыі ў беластоцкай кулінарыі, з саленым агурком і настуркай у цэнтры. Што і раз нехта званіў дахаты, каб даведацца: *a co u was dzisiaj na obiad...*

Уся актыўнасць экскурсіі зводзілася да яды і тупога фатаграфавання ўсяго, што было за акном. Той-сёй званіў дамоў, знаёмым, сваякам, каб выклікаць у іх пачуццё зайздрасці. У рамках падзякі ім распавядалі пра буралomy, абрыў хмары, маланкі і градабой у Беластоку.

Вось і ў славутых грэчаскіх Метэорах душа нашай экскурсіі замест ляцець угару, накіравалася ў чорную духовую прорву! Усё з-за аднаго тэлефоннага паведамлення, якое даляцела з Беластока, а дакладней з Васількава. Там градабой прадзіравіў новы джып, што стаяў на выстрыжаным панадворку ля катэджа. А ў рацэ паднялася вада і заліла некаму хлявок, затапіла двух трусоў. Ну, проста, канец свету...

Паніка зрабіла сваё. Цягам наступных гадзін наша экскурсія званіла дамоў, каб спытаць пра сваю машыну і агародніну на гарадскіх участках — *дзялках*. Ці хоць агуркоў не пабіла? Ніхто не спытаў пра пакрыўджанага бурай уласніка джыпа...

— А ты чаму не звоніш? — Рэня ўтыкала мне ў руку свой смартфон, каб і я пазваніла сям'і. — Можа там дах ужо сарвала?!

У маёй стомленай галаве мільганулі думкі пра біблейскі патоп, які пачаўся чамусьці не на грэшным Захадзе, а на набожным Падляшшы. Словам, атакавала блюзнерства. І каб рэальна ўцячы ад той хворай хвалі, на якой добра зарабілі аператары мабільнай сувязі, я чым хутчэй вярнулася ў царкву, да працудоўных ікон Божай Маці. На іх святых абліччах, здавалася, лунaлі боль і крыўда. Хацелася ўпасці на зямлю і плакаць разам з іконай...

* * *

У дапамогу таемнаму абаронцы Смаленска Адзігітрыя пашле сваё нябеснае войска і цудатворцу Меркурыя з Кесарыі. Калі чытач пазнаёміцца з біяграфіяй апошняга, ён зразумее поспех перамогі і патрэбу ў паходзе без галавы...

Той Меркрый быў рымскім воінам і дзейнічаў большменш дзесяць вякоў назад. Усе даследчыкі яго жыцця і аўтары культу адзначаюць адну дэталь — ён па паходжанні быў скіфам. У памяць гэтага вымерлага народа сёння прамаўляюць адны курганы, багата прыаздобленыя золатам, ахвярамі з коней і людзей. Магутнасць народа, які займаў тэрыторыю ад Сібіры па Дняпро, прыпадае на VIII-IV стагоддзі да нашай эры. Меркурый з Кесарыі, як не дзіўна, узыдзе на нябесны пантэон у час, калі адбываецца палітычная смерць яго народа. У апошнім баі з готамі скіфы не змогуць абараніць Новага Неапаля на Крыме, разам са сталіцай губляюць эліту. Ніколі больш не падымуцца з каленяў. Смерць рымскага воіна Меркурыя прыпадае на 250 год, пры кесары Дэкію, які законам, агнём і мячом змагаецца з хрысціянствам.


Меркурый Смаленскі (XIII ст.) бачаны вачыма мастака XXI ст.

У дачыненні да выгляду святога сустрэнем шмат дзівосных дэталяў, вядомых для беларуса з радзімай міфалогіі. Першыя інфармацыі пра скіфаў запісаў Герадот. Бацька гісторыі сам ступаў па іх зямлі, удзельнічаў у прыёмах, назіраў за вандроўным ладам жыцця. Як пазначыў у сваіх запісках старажытны гісторык, скіфы былі народам ваяроў. За бяседны стол яны дапускалі адно мужчын, якія мелі ў руках чэрап з забітага імі ўласнаручна ворага саюзнікаў. Часта тыя людскія чарапы аздаблялі яшчэ золатам...

Пра скіфа Меркурыя падаецца фантастычная вестка. У яго, як у святога Хрыстафора, была сабачая або воўчая галава. Іншыя аўтары легенд пярэчаць *найпраўдзіўшай* праўдзе і цвердзяць, што воўчыя галовы былі адно ў бацькі і дзеда святога. Яны, каб тут не было сумненняў, усе былі з княжага роду!

*(працяг будзе)*


Цудатворца воін Меркурый Скіф (III стагоддзе)

## Нараўчанскае Таварыства

Сёлета Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі (ТСНЗ) будзе святкаваць юбілей 10-годдзя сваёй дзейнасці. Да ТСНЗ належаць не толькі жыхары Нараўчанскай гміны, але і выхадцы ў Беласток, Гайнаўку, Варшаву, Лодзь, Люблін і іншыя мясцовасці ў нашай краіне, а нават у Аўстралію і далёкія ЗША. Старшыня Таварыства Вольга Зданоўская-Місеюк (яна ўраджэнка Нараўкі, але пражывае ў Беластоку) супольна з членамі праўлення рэалізуе цікавую і змястоўную праграму дзейнасці ў карысць малой айчыны. Ладзяць сяброўскія сустрэчы — летнія балі сяброў Нараўчанскай гміны і запрошаных гасцей. Падчас балю плывуць перш-наперш прыгожыя беларускія песні, але і рускія, і ўкраінскія. Вольга Зданоўская-Місеюк і яе сяброўкі прыемна і мілагучна спяваюць і танцуюць. Гэта самародныя таленты. Спадарыня Вольга — як я памятаю — спявала на сцэне падчас летніх фэстаў на вольным паветры ўжо ў школьным узросце. Яна займалася ў вакальна-музычных калектывах. Іграла на акардэоне.

Кожны год ТСНЗ праводзіць конкурсы, між іншым п.з. „Нараўчанская зямля ў вачах пакаленняў" ці „Нараўчанская зямля — людзі і факты" (конкурс успамінаў з роднай зямлі, у катэгорыях: літаратура, пластыка ды кінафільм). У конкурсах ахвотна ўдзельнічаюць таксама ніўскія карэспандэнты Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова і Мікалай Варанецкі з Альхоўкі.

Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі не забывае пра памерлую Тамару Саланевіч (яна жыла і вучылася ў Нараўцы) і ладзіць дэманстрацыю яе фабулярных фільмаў.

Таварыства прымае ў свае рады членаў, творчых людзей, актывістаў. З гэтым трэба звяртацца да членаў праўлення Алімпіі Павільч (яна працуе медсястрой у нараўчанскім Гмінным асяродку здароўя) і Анны Стульгіс (дырэктаркі Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы).

## Танна і смачна ў бары „Сонечны"

Бар „Сонечны" ў Беластоку ля скрыжавання вуліц Сянкевіча і Бялуўны знаходзіцца нязменна ў тым самым месцы больш чым паўвеку. Заходзіў я ў гэты бар яшчэ ў свае студэнцкія гады (былі гэта шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя). Бар існуе і цяпер, і ў тым жа самым месцы ў цэнтры горада. Кожны дзень (апрача нядзель) мае шматлікіх наведвальнікаў.

Год таму яго аднавілі ўсярэдзіне. Цяпер тут стала яшчэ больш утульна. Барменкі ветлівыя і з усмешкай падаюць стравы, якіх тут вялікі выбар.

Абеды ў „Сонечным" смачныя і танныя. Напрыклад ёсць і да выбару: за 8 і за 11 злотых. Можна заказаць стравы і па вышэйшай цане. Афіцыянткі дапамогуць выбраць тое, што хто любіць з'есці.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Лекар контра прырода



Фота Ганны Кандрацюк

Многія з нас нават з самым малым болем галавы ідуць да лекара. Навошта мы гэта робім? Лекар нас падлечыць, дапаможа, але сапраўды дапамагае нам прырода. Хопіць падумаць, што зрабіла б яна ў такой сітуацыі? Найхутчэй, яна выгнала б нас з хаты, падштурхнула пахадзіць, праветрыцца. А мы не — сядзім як прыкаваныя ў хаце. У нас заўсёды многа працы, вучобы. Мы кожны вечар іграем на камп'ютары, зажэрта аглядаем тэлебачанне. І як гэтага не рабіць, калі ўсе нашы сябры на свеце паводзяць сябе аднолькава!

На маю думку, боль галавы бярэцца ад банальнай схематычнасці. Калі што здарыцца, адразу бяжым да лекара. Што ж параіць нам лекар? Ён напіша рэцэпт і адправіць дамоў! А прырода скажа: „Не сядзі як затычка ад пекла перад тэлевізарам і камп'ютарам. Прагуляйся па двары, падыхай свежым паветрам".



Фота Ганны Кандрацюк

Мы цяпер на Сустрэчах „Зоркі". Наш гаспадар Барыс Казлоўскі расказаў пра свайго сябру, які захварэў ракам. Яму лекары дапамагалі, дапамагалі аж у канцы адправілі дамоў са словамі: „Для цябе ўжо няма ратунку". Тады ён сам пачаў шукаць спосабаў на аздараўленне, прымяняў натуральныя метады лячэння. І неяк ачуняў, падняўся на духу, пачаў думаць пра жыццё.

— Запамятайце, — сказаў нам спадар Барыс, — прырода гэта вялікая сіла, якая ў змозе аздаравіць чалавека. І яна ніколі не скажа: „Ідзі, для цябе няма ўжо ратунку".

**Паўліна Ваўранюк,**
*„Папля", II клас Гімназіі ў Нарве*

# Вершы Віктара Шведа

## У тэатры

Да касіркі цвёрда
Нейкі пан кажа гэтак:
— „Трыстан і Ізольда" —
Прашу два білеты.

За панам падыходзіць
Шыкоўная дама:
— Баляслаў і Лёдзя —
Два білеты таксама.

## Лагічны адказ

Настаўнік белмовы
Запытаў на ўроку Насцю:
— Будучы час дзеяслова
Які выведзеш ад „скрасці?"

— Думаецца мне талкова,
Хіба так і мае быць:
Адпаведнае тут слова —
„Пасадзіць!"



Фота Адама Паўлоўскага

*Так сучасныя ўкраінцы адзначаюць свой Дзень Волі. Львоў 24 жніўня 2012 г.*

*(Грузінская народная казка)*

# Зароблены рубель

Жыў на свеце каваль. І быў у яго сын, ды такі гультай, што ва ўсім свеце не знойдзеш другога. Ні капейкі не зарабіў ён за ўсё жыццё, хаця і пражыў каля дваццаці гадоў.

Так і жыў на бацькавым хлебе. Ды вось бацька стаў стары — не мог больш працаваць.

Злёг стары, адчувае — хутка смерць прыйдзе.

Пазваў ён сына і гаворыць яму:

— Я ўсё жыццё працаваў, сваімі рукамі дабро нажываў, а ты нават рубель зарабіць не можаш.

— Рубель зарабіць — не вялікая справа,— гаворыць сын.

— Ну што ж, ідзі зарабі,— гаворыць бацька.— Заробіш рубель — усю сваю гаспадарку пакіну табе ў спадчыну, не заробіш — нічога не атрымаеш.

☞

## Зароблены рубель

Што рабіць? Хочацца гультаю спадчыну атрымаць, а працаваць не хочацца. Ці ж гэта смешкі — цэлы рубель зарабіць, калі ён капейкі не нажыў!

А спрачацца з бацькам таксама не станеш — калі бацька сказаў, так і будзе. Бацькава слова — нібы гара каменная. Гару каменную не пасунуць, бацькава слова не змяніць.

Ну, а маці шкада свайго сына. І гаворыць яна яму:

— Паслухай, сынок, вось табе рубель, ты ідзі пагуляй да вечара, а вечарам прыйдзеш нібы з работы і аддасі бацьку грошы.

Лянуецца сын нават устаць, ды няма чаго рабіць — трэба ісці. Узяў у маці рубель і пайшоў у горы. А вечарам прыйшоў дамоў, дае бацьку рубель і кажа:

— Вось, бацька, вазьмі. Цяжка мне гэты рубель даўся, спіны разагнуць не магу — так напрацаваўся.

Узяў бацька рубель, пакруціў, з усіх бакоў пагдядзеў, з далоні на далонь перакінуў, ды і кінуў у агонь.

— Не,— кажа,— ты гэты рубель не зарабіў.

Сын толькі плячыма пацінуў: «Не верыш — не трэба». — І спаць пайшоў.

Так было і на другі дзень.

А на трэці дзень маці кажа сыну:

— Вось што, сынок, давядзецца табе і сапраўды папрацаваць, калі хочаш спадчыну атрымаць.

Няма чаго рабіць — давялося гультаю паслухацца. Цэлы тыдзень ён працаваў і зарабіў-такі рубель. Прыйшоў да бацькі і высыпаў грошы на стол.

А бацька зноў кажа:

— Не, падманьваеш ты мяне, сынок. Не ты гэтыя грошы зарабіў.

І кінуў іх у агонь, нібы смецце.

Не стрымаўся тут сын. Кінуўся да агню, голымі рукамі вуглі разграбае, з самага полымя грошы выхапівае.

— Ды што ж гэта такое! — плача.— Я поўны тыдзень спіну гнуў, а ты мае грошы ў агні спаліць хочаш!

Паглядзеў на яго бацька:

— Вось цяпер я веру, што ты сам гэты рубель зарабіў. Чужых грошай табе не было шкада, а свае — працай даліся, вось ты іх і пашкадаваў. Помні мае словы: «Будзеш працаваць — і грошы будуць, і ўсё ў цябе будзе. А не будзеш працаваць — дык і чужыя грошы табе не дапамогуць. Чужому рублю — цана капейка».



Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## Новы стары „Relikt”



Калі часам здаецца, што няма шанцаў вярнуць старое, добра вядомае, любімае, неспадзявана прыходзіць дзень і ўсё мяняецца. Тады сустрэча з тым „добра вядомым” прыводзіць да адчування, што вось прыйшло да нас сапраўднае свята! Такое свята захапіла знянацку фанатаў гурту „Re1ikt”, калі нечакана для ўсіх абвясцілі, што ў склад гурту вярнуўся яго былы вакаліст Уладзімір Казлоў. Неспадзяванка была вялікая, бо хлопцы разышліся вельмі рашуча і, здавалася, насуперак жалю публікі, што шанцаў на вяртанне няма. Пасля выхаду з гурту Уладзімір Казлоў працаваў і са старым матэрыялам, і рыхтаваў новыя рэчы. Шматбаковае супрацоўніцтва з іншымі вакалістамі, у тым ліку з Сяргеем Доўгушавым, які выступіў з канцэртам у Беластоку ў час фестывалю „Halfway”. І калі ўсё прыводзіла да думкі, што „Re1ikt” нанава сфармаваўся... Вова Казлоў вярнуўся, а „Re1ikt” пачынае працу з новай энергіяй ды яшчэ ў новым напрамку. Толькі сёння цяжка здагадацца, што абазначае гэты новы напрамак, бо хлопцы таямніча гавораць пра музыку, якая будзе блізка з натурай. Імгненнай асацыяцыяй у гэтым кантэксце з'яўляецца песня „Ой рана на Івана”, якая паказала маленькае захапленне гурту беларускай народнай музыкай. Як сказаў у адным з інтэрв'ю новы-стары вакаліст, „Ой рана на Івана” — „гэта было простае”, што можа абазначаць зусім новыя пошукі.

Восем месяцаў — толькі вытрымалі без сябе музыкі і вакаліст гурту „Re1ikt”. За гэты час не толькі гурт працаваў над сваім патэнцыялам. Сам Уладзімір таксама шмат часу правёў над сваім мастацкім жыццём. Падрыхтаваў ён матэрыял на сваю сольную праграму, пра якую яшчэ нічога не ведаем, але спадзявацца трэба на раскрыццё таямніцы. Увогуле гурт спецыялізуецца ў таямніцах, таму можам спадзявацца, што восень і бліжэйшая зіма будзе багатая ў смакавітыя прапановы ад гурту „Re1ikt”. Як бачыце, вяртанне старога не заўсёды абазначае „старую” якасць. У мастацтве трэба выпрэджваць думкі слухачоў. Відаць, такі план у музыкаў гурту „Re1ikt”.

i_basovka@o2.pl

## Я жыву

Я жыву на гаспадарцы
З бацькам, мамай, сястрой.
Памагаю ім у працы
З усёй сілы як магу,
Рэжу дровы — даю каровам.
Усё чакаю я даросласці.
І не ведаю чаму
Быць вялікім я хачу.
Я і так ужо падрос.
Успамінаю, гавару
Як калісьці быў малы.
Я хачу быць зноў малы!
Я хачу быць зноў малы!

**Крыстыян Паскробка,**
*„Учора, сёння, заўтра”,*
*4 кл. КПШ у Нарве*

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 31:

Рукаў, на, расліна, плечы, парк, сноб, сто, язык, ял, басейн. Жар, раса, Об, справа, Ас, клін, настой, но, карабель.



Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Калісь летам...

**На жаль, зноў восень прыйшла, не абернешся — і мароз настане. Чаму поры года мяняюцца? Чаму лета так хутка адыходзіць? А як яно калісь выглядала? Здаецца, на працягу вякоў у маіх продкаў яно не заўсёды выклікала столькі салодкіх асацыяцый і ўспамінаў.**



Каб даведацца, як праводзілі найцяплейшыя дні года пад Крынкамі, я падалася да пані Марыі Кулакоўскай — жывой хронікі гісторыі і роднай культуры.

Мой візіт быў як заўсёды неспадзяваным — от, знайшла хвілінку, села на ровар і паехала без аглядкі ўперад. Слава Богу, пані Марыя ў гэты раз прыняла мяне цёпла і сардэчна: якраз сядзела ў кухні за кубкам гарбаты, апранутая, нягледзячы на ўжо асеннее надвор'е, у элегантную квяцістую сукенку з кароткім рукавом. Яна згодна была забраць мяне ў чарговы раз у падарожжа ў часе і прасторы ў свае даўнія Крушыняны.

— Лета… Адзін жыд у нас гаварыў: „Эты вясковы бабы толькі гакам і гакам" (ён гаркавы быў, „р" не вымаўляў). Найдаўжэйшыя дні года перапоўненыя былі вельмі цяжкай працай, выціскаючай з чалавека апошнія сокі, усе сілы — фізічныя і псіхічныя. Вясковыя жанчыны сеялі і даглядалі агароды, сенавалі, часам і да жніва не паспявалі сена парабіць — яго ж трэба было растрасаць, сушыць… Машын вельмі не было, усё сваімі рукамі рабілі. Знакам жніва быў серп, якім жалі жыта, пшаніцу, авёс, а потым пад восень — лубін і грэчку. А тут і бульбу ўжо капаць трэба…

Хатаў ніхто спецыяльна не прыбіраў, на гэта часу не хапала. Увесь тыдзень адзення не мянялі і нікому не смярдзела, не тое што цяпер: штодзень новае, бо нібыта не так ужо пахне. Калісь, памятаю, жнем пры дарозе, а тут польскія салдаты ідуць. Раптам адзін з іх кажа маёй сястры: „Proszę pani, u pani majteczki brudne", а яна яму ў адказ: „Proszę pana, przecież dziś jest sobota, a nie poniedziałek". Нагнецца — і відаць тыя майтачкі. Пераважна ў нядзелю вопратку летам прапаласкалі або ў дажджлівы дзень, што ў поле не выйдзеш.

Да работы ў полі апраналі што мелі, хустка белая — і ўсё. Найцяжэй было жанчынам з маленькімі дзецьмі. Такая баба мусіла несці — а хадзілі пехатою часам і па некалькі кіламетраў — дзіця, калыску, рагачы, серп і ежу. Увесь дзень жалі. Каблучок палатном абшыты паставіць на трох калах, абвесіць плахтаю, каб цянёк быў, пакладзе туды дзіця і ўвесь дзень яно там ляжыць.

Жніўны сезон пачынаўся ў Крушынянах тыдзень да Пятра, як толькі збожжа збялела; трэба было глядзець, каб яно не пераспела і не асыпалася. Поле было гарыстае, на пагорках хутчэй даспявала, дык тыя пагорачкі перш абжыналі.

Як часам бывала сухое лета, то Сальнікe, вёска, якой цяперашняе польскае названне Саннікі, заказвалі абедню ў нас у Крушынянах; там не было яшчэ парафіі, толькі капліца стаяла. Ішлі мы тады, і крушынянскія, і сальніцкія, з хрэсным ходам, з бацюшкам, свяцілі ўсе палеткі, аж пад сальніцкую граніцу.

На пачатак зажынак пераважна выбіралі суботу. У суботу хай будзе найхмурнейшае неба, то хоць адзін прамень сонца мусіць выглянуць, бо гэта дзень Божай Мацеры. У поле выходзілі да ўсходу сонца, жалі ранкам і вечарам, — тады збожжа не такое сухое, бо ў абед яно рабілася як нежывая салома.

Даўней людзі былі вельмі веруючыя, усялякія справы пачыналі малітвай. Так было і ў выпадку зажынак. Гаспадар на каленях „Отча наш" гаварыў, перахрысціць першую палоску, і тады ўжо начынае. Жняцы, у асноўным жанчыны, абвязвалі сабе рукі суконнай ніткай, якую бралі з асвечаных вербачак. Гэта лічылася цудоўным лякарствам, якое боль з рукі адцягвала. Казалі: „У першы дзень не перасіляйся, не бяры лакомо ў руку, бо захватаеш". Мужчыны пераважна за бабамі ішлі, яны снапы шпулём вязалі. Глядзелі, каб не зжаць патоптанага, пакурчанага жыта, бо гэта прыцягвала каўтун і ўсялякія іншыя хваробы.

У багацейшых гаспадароў, якія жняцоў чужых наймалі, працавалі таксама спецыяльныя жанчыны, якіх звалі „пастацянкамі". Пастацянка зарабляла найбольш грошай, старалася жаць найхутчэй за ўсіх, а іншыя мусілі яе даганяць. Не ўсе ўмелі жаць хутка, хто жаў хутчэй, хто памалей — як каму ўдавалася. Затое спяваць любілі ўсе. Усе хораша спявалі, гэта прыносіла найбольш радасці і асалоды ў цяжкія працоўныя дні. Бывала, ідуць па полі з песняй, аж рэха нясе. Заспявае Ніна Папкова — то ўсё кругом гудзіць: у яе голас быў найпрыгажэйшы, звонкі. У Папкоў уся радзіна добра спявала, яны ўсе харошыя галасы мелі. Спявалі многа ўсялякіх песень. Былі і такія жартоўныя:

Пра дзеўку:

*Ото дзеўка, ото хват, што на ўсе тут вёскі,*  
*Хоць павесь на добры лад, ды шкада бярозкі.*  
*Бо як пойдзя хусты праць, усё вадою змыя,*  
*А як пойдзя жыта жаць — плача, ажно выя.*  
*А пяе як сава, зайца выклікае,*  
*Аж трасецца галава — так яна гукае.*  
*Не карову а быка ўсё даіці хоча,*  
*А як німа малака, дык яна рагоча.*  
*А каб жа іх воўк узяў, гэтыя цялушкі:*  
*а ў вымя — тоўк ды тоўк! — вымя як падушкі.*  
*Сядзе прасці, дык прадзе, бурчыць калаўротак,*  
*Бунцік лёну так звядзе, што ні выйдзя мотак.*  
*Як паставіць кросны ткаць, ды аж на Якуба,*  
*А тут пара ўжо жаць, во, наткала Люба.*  
*А багацця цэлы мех, завязаны жыжкай,*  
*Ні смяецца — то ні смех, там дзіця з калыскай.*  
*Нуця, хлопцы, я вам сват, яна маладзенька,*  
*Будзя дзела рабіць шмат, усё падаглядая.*

Пра кавалера:

*Ой, калючы ялавец, ягадкі салодкі.*  
*Ой, харошы маладзец, ды няма малодкі.*  
*Агукніся ты на лес, чы хто ні пакліча,*  
*У сваё порткі не ўлез, можа хто пазыча.*  
*Ідуць дзеўкі да яго як мухі да мёду,*  
*Будзя муж хоць для каго добрага заводу.*  
*Ласа есці, смагла піць, ні будзя адказу,*  
*А па шлюбі жонку біць дык пачне адразу!*

Складвалі таксама вершыкі:

*Надыдзі, абалочак, хай адпачыне бабін бочак.*  
*А ў полі бярэзіна, баліць мяне сярэдзіна. Ці палоску паджынайце, ці дахаты адпраўляйце.*

У першы дзень крушынянскіх зажынак рабілі „гаспадара": гэта быў маленькі снапок, які забіралі дахаты і ставілі на покуце. У Астраўку яго звалі „госцікам".

Жалі па два тыдні і больш, як многа поля было, пераважна да Ганны. Як хто ўжо кончыў, то да Іллі стараўся з поля ўсё звезці, бо „як прыйдзе Ілля, то наробіць гніілля". „Госціка" з покуці ў стадолу ставілі, а тады ўжо ўсе астатнія снапы прывозілі.

З пажатых снапоў выцягвалі каласкі і вязалі дажынкавы вянец, яго неслі з поля ў хату. Вянок і таго, хто яго нёс, вадою палівалі — на шчасце, здароўе, каб другога жніва дачакалі. Ставілі яго ў хаце ў акне — ужо звонку было відаць, хто кончыў работу. З доўгай саломы крыж рабілі і на зжатых палосках яго пакідалі.

На самы канец поле трэба было яшчэ апалоць. Пакідалі тады лапік нязжатага жыта, з якога сплятали касу. Яе трэба было завярнуць, прымацаваць каменем, каб такі лук атрымаўся. На гэты камень клалі кавалак свянцонага хлеба. Каса таксама заставалася ў полі.

Канец жніўных прац быў, безумоўна, звязаны з вялікім святкаваннем у сямейнай і вясковай грамадзе. Калісь, як дажнуць жыта, то зробяць пярэвясла з саломы, звяжуць ім гаспадара, каб гарэлкі паставіў, а яшчэ і паспяваюць яму:

*Мы ў свайго пана жыта дажалі,*  
*А ў суседава — свіней загналі.*  
*Дажалі жыта аж да дарогі,*  
*У нашага пана крывыя ногі.*  
*Дажалі жыта аж да граніцы,*  
*Ні жалуй, пане, водкі шкляніцы!*

Не абернешся — а ўжо і Зельна надыдзе. У гэтае свята дажынкавыя вянкі ў царкву прыносілі, каб пасвяціць, а потым у поле занесці. З іх азіміну сеяць пачыналі. У Крушынянах слабыя землі, тут ужо на другі дзень пасля Зельнай гэта адбывалася. Дзе землі лепшыя, там Багача чакалі, казалі: „Багач, кідай рагач (аралі ім зямлю), бяры сявеньку і сей памаленьку".

От і лета закончылася…

Як заўсёды, я з удзячнасцю развіталася з паняй Марыяй — яна ж мяне абагаціла новымі ведамі, цудоўнымі песнямі і добрым настроем.

## Пераклады

*Таленавіты польскамоўны паэт, беластачанін родам з Бельска-Падляшскага, мой сардэчны сябар Юры Плютовіч падпісаў мне чарговы (дзесяты) паэтычны зборнік „Miasto małe jak łza", выдадзены з нагоды 65-й гадавіны з дня Яго нараджэння. Далучаючыся да юбілейных пажаданняў паэту, прапаную ўвазе чытачоў „Нівы" мае пераклады двух вершаў з вышэйзгаданага паэтычнага зборніка.* **Віктар ШВЕД**

*Юры Плютовіч*

### Наш дом

Прамываеш мае вочы, гасіш недакурак  
у тазіку. Мітусішся ў промені святла,

што з расколіны жалюзі. Ставіш люстра,  
куды вядзе сцежка свету, якраз каля іконы.

Сцежка ідзе пад гару, быццам на край, аж да  
тэрыторыі, дзе цікуе чужы, няўжо гэта

вартаўнік з пацуковай галавою. Наш дом рассейвае  
чыстую лагоднасць, прадчуваю яе ўласнай скурай,

на памяць, на злосць, нянавісць з дна пекла.  
Кладзеш мне на далоні рэч у поўнай яе

рэчаіснасці; можа персцень, можа ключ.  
Вядзе цябе гэты трэці, выгнаннік з супольнасці,

той, які сканструяваў гадзіннік у кардонцы на боты,  
у акварыум без вады, адвярнуў ход

часу. Запісаў, умацаваў знак. Картка кнігі  
са свінцу, а можа з бетону. Паэзія —

перашкодай, бар'ерам; чыстым злом.

**12.10.2000**

### Падарожжа ў Бельск

У маім сне ты запаліла лямпу — гарэла без агню.  
Ты адкрыла дзверы на ўсе бакі, таксама

на бок верхні і ніжні, на вечнае цяпер. У сне  
прайшла ты праз калідор просты як саломінка

у канцы лета, як струна, як нотны знак.  
У бегу скранула столік на верандзе, на якім

адкрытая кніга — як дапатопны матыль. Усё святое  
аб'явілася ў дотыку, ва ўдары: шорсткім

пнём яблыні ў садзе, кладкаю над ровам,  
што ў радыусе бачання. Святло розуму пераймала

холадам... Снілася, што купал царквы стаў  
кропляй расы, слязой; а душа свету — вырваным

з кантэксту сказам. Ці ж прырода была толькі  
водбліскам у люстры, у старым краю, дзе ўміраe

паэзія.

**8.11.2000**

З польскай мовы пераклаў Віктар Швед

**„Халуі не маюць нацыянальнасці", — кажа з-за кадра выдатны дакументаліст Віктар Дашук у сваім фільме „Гулец". Камера ў гэты час ездзіць па сытых тварах у мундзірах і ў штатскім, падобных адзін на аднаго, з пустымі вачыма, што — як той казаў, — „сумуюць па розуме". Сабраліся яны ў найбольшай зале Палаца Рэспублікі ў Мінску на перадвыбарчы спектакль аднаго акцёра. Рагочуць з яго хамскіх вылазак у бок апазіцыі, б'юць у ладкі як накручаныя, аднагалосна прымаюць нейкія пастановы, якія і так у любы момант могуць быць замененыя адваротнымі рашэннямі. „З халуямі не можна нічога збудаваць", — працягвае свой кінааповед рэжысёр.**


Фота Іны ХОМІЧ

Мікола ВАЎРАНЮК

# Беларускія фільмы на Расточы

На фатаграфіі барочны касцёл св. Яна Непамука (палова XVIII ст.) на выспе — найстарэйшы і найпрыгажэйшы помнік архітэктуры ў Звяжынцы

Віктар Дашук быў госцем Летняй фільмавай акадэміі ў Звяжынцы каля Замосця, якая праходзіла з 3 па 12 жніўня. Паказваў там яшчэ „Беларускі дэкамерон", „Каралеўства здохлых мышэй", „Феміда як пані лёгкіх паводзін".

— Пад сваімі фільмамі падпісваюся толькі я, — тлумачыў гледачам у час аўтарскай сустрэчы, — не з-за лішняй пыхлівасці, а таму, што не хачу падстаўляць людзей, якія са мною працуюць.

Чаму так, ведаюць тыя, хто глядзеў фільмы Віктара Дашука. На жаль, пабачыць іх у Беларусі практычна немагчыма.

— Такая сітуацыя для кожнага рэжысёра, калі ён не піжон, прыгнятальная, — гаварыў Дашук у Звяжынцы, — бо кожны здымае кіно не ў шуфляду, а для людзей. Таму я заўсёды з радасцю сустракаюся з гледачамі. І магу іх запэўніць перад праекцыяй, што прыемна не будзе, затое цікава.

Беларусь у 17-ці карцінах, гэта адзін з цыклаў сёлетняга, 13-га ўжо летняга фільмавага марафона ў вельмі маляўнічай абстаноўцы, у мястэчку, якое можна параўнаць да Белавежы. Трохтысячная мясцовасць — раней сталіца лясных угоддзяў Ардынацыі Замойскіх, а цяпер Растачанскага нацыянальнага парку — кожны год у пачатку жніўня ператвараецца ў сталіцу амбітнага кіно. Можна там паглядзець фільмы з усяго свету, якія перамагаюць на фестывалях, тым не менш, рэдка трапляюць у кінапракат. Сёлета, між іншым, беларускія. Апрача згаданых, прэзентаваліся так розныя карціны як „Брэсцкая крэпасць" АляксандраКата, „Лабатамія" Юрыя Хашчавацкага, „Акупацыя. Містэрыі" Андрэя Кудзіненкі, „Ваўкі" нядаўна памерлага Юрыя Колбышава ці „Рабінзоны Манцінсаары" Віктара Аслюка, які таксама асабіста прыехаў на фестываль.

Віктару Аслюку давялося больш гаварыць не пра сваё мастацтва, а пра сітуацыю з беларускім кіно ўвогуле і з „Беларусьфільмам" у прыватнасці. Рэжысёр з горыччу адзначыў, што адзіная ў краіне кінастудыя так і не стала нацыянальнай, а ўсё яшчэ сядзіць у савецкім мінулым. Выпадковыя рэжысёры, прапагандысцкія заказы, невядомая будучыня — такі сёння „Беларусьфільм". Такое сёння беларускае кіно.

На шчасце Віктару Аслюку, які паспяхова крочыць ад фестывалю да фестывалю, удаецца знаходзіць розных заказчыкаў і здымаць кіно як у Беларусі, так і за мяжой. У Звяжынцы паказаў, між іншым, фільм „Драўляны народ" пра вядомага і на Беласточчыне разьбяра з Белавежскай пушчы Мікалая Тарасюка. „Пакуль змагу, датуль буду здымаць Тарасюка", — дэклараваў яўна замілаваны ў свайго героя Віктар Аслюк.

На фестывалі прэзентаваў свае фільмы таксама тэлеканал Белсат, між іншым „Архімандрыта" беластоцкага рэжысёра Юрыя Каліны. А калі дадаць яшчэ рэтраспекцыю творчасці народжанага ў Баранавічах Сяргея Лазніцы, дык можна сказаць, што беларускае кіно, ці кіно так або інакш звязанае з Беларуссю было яркай з'явай сёлетняй Летняй фільмавай акадэміі ў Звяжынцы.

На канец яшчэ пару слоў пра само мерапрыемства. Арганізуюць яго людзі хворыя на кіно, перш-наперш звязаныя з Дыскусійнымі фільмавымі клубамі. Прагляды адбываюцца, апрача аднаго кінатэатра „Скарб", у гімнастычных і дыдактычных залах мясцовых школ. Ёсць яшчэ начныя сеансы і канцэрты ў старым бровары, тэатральныя спектаклі, ёсць шмат сустрэч з творцамі кіно і нефармальныя дыскусіі часта да раніцы. Усё гэта ў надзвычай прыгожым месцы.

Горача рэкамендую паехаць у Звяжынец усім тым, хто наракае на цяперашнюю моладзь, што, маўляў, „нічога не чытае, нічога не глядзіць, нічым не цікавіцца". Якраз туды з'язджаюцца з цэлай Польшчы маладыя амбітныя людзі, з якімі і старэйшым цікава пагаварыць ды часам ёсць і чаму павучыцца.



Міра ЛУКША

## Замова Міры

Кажу замову
крывяна-кармазыновую,
што адыме цвёрдае ад сэрца мяккага,
ці то нож будзе, ці камень,
каб не парвала ні жылачкі
майму любаму чалавекаві,
які на тутэйшых неўрадлівых палетках
трымаецца свайго кораня,
што не адарваць яго,
хаця паляціць нават у далёкі край,
птушкай-каршуном ці хутчэй ластавачкай.
І вернецца сюды і затрапечацца
на мяжы як васілёк галубовы сярод
палыноў і крапіў і чартапалоху.
І пашукае зрокам такіх самых,
і пагушкае свае думкі на вечным дыме камінову,
якіх штораз менш запальваецца ў нашым старонні.
І запляце тыя думкі запляценнем адмысловым,
каб спляліся з іншымі, што снуюцца сярод
пакінутых палосак, зарастаючых маладняком,
і не дасць каб іх развеяў вецер чужынскі,
хоць ён заўжды нянаскі, бо межаў не ведае,
і ляціць той вецер па свеце,
і носіць на сабе скаргі і плачы,
і насмешкі надзьмутыя і крыўдныя,
і скаргі пераплятаюцца з жалямі,
і шкадаванне са смехам напышлівым,
і жартам рагатлівым і балючым.
Хай не скардзіцца чалавек той лямантам слязлівым,
папракаючы лёс, гісторыю і сябе самога,
раздзіраючы незагойныя раны і драпіны,
шкадуючы таго што было і не было,
таго што зрабіў і не зрабіў,
таго што аддаў і не аддаў,
таго што прадаў і таго што даў дарам,
жанчын якіх не кахаў і якіх кахаў да знямогі,
забываючыся на сябе самога і гонар,
гарэлку якую выпіў і якую выліў у чортаву багну,
зямлю якую прадаў або якую дарам пакінуў.
Замова ад жалю і болю пячэ мне больш чым яму,
ды для таго мяне вятры паставілі пасярод дарог,
плячмі да мяжы, тварам да хат, вокам да сонца,
вухам на ўсход і захад, сэрцам ва ўсе бакі,
адкуль вораг ціхі і працаўнік грымучы
прасціраe чэпкія рукі, настаўляе кішэнь
глыбокую як мех бяздонны, на наша зерне,
золата думак і радасць дзяцей.
Не скаргу кажу, а замову, бо за мову
кожнае слова ідзе з рота рота за ротай,
і кропля за кропляй, раса за расінай,
родную ролю поіць вільготна і вольна.
Кармазынам кроплі хай жыляцца,
чалавек мой родны не хіліцца.
А ціпун на язык без'языкім!
Амін!

**Нарэйкі, Гарадоцкая гміна,**
**25 жніўня 2012 года**

Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

## ПРАВАСЛАЎНАЯ КАПЛІЦА АХВЯРАМ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

На канец ля царквы збудавалі капліцу
Праваслаўным ахвярам сусветнай вайны,
Што загінулі бліз беларускай граніцы,
Ад паплечнікаў злой ксенафобскай маны.
Забівалі яны беларусаў за веру,
Што хадзілі ў царкву, а не з імі ў касцёл,
А з падполляў прыходзілі ў вёску жаўнеры,
Каб яе замяніць у вялікі касцёр.
Так спалілі Патоку, Залешаны, Зані,
Канцавізну, Чыжы і Сыпні, і Шпакі,
Не мінулі і Вулькі-Выганоўскай тыраны,
Пазіралі здалёк на пажар, як ваўкі.
Бо шнырялі тут доўга „Лупашка" і „Буры"
І змушалі страляць да жанчын і дзяцей.
Нам каплічка прыпомніць перыяд пануры,
Як калісь мардавалі нявінных людзей.
Нам прыпомніць яна, як ля Старых Пухалаў
Каты „Бурага" ў лесе густым між кустоў
Мардаваді вінтоўкаю з вострым кінжалам,
І забілі там трыццаць сялян-вазакоў.
Нам прыпомніць, як з помсты калісьці фашысты
Беларускія вёскі Папоўку і Райск
Сцёрлі разам з людзьмі ўсіх з зямлі ў дзень імглісты,
Толькі моладзь пагналі ў нявольніцкі „рай".
Нам прыпомніць аб многіх ахвярах у вёсках,
У часы, як ішлі на Падляшшы баі,
Як людзей мардавала нямецкае войска,
І як грабілі потым сялян гультаі.
І хай кожны памоліцца тут за ахвяры,
Бо не ведаем нават, ці маюць пагост,
Многіх попел развеялі ветры ў пажары,
А іх ворагі ўмела ўвялі галакост.



# На Спаса ў Саках



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Калі я спытаў псаломшчыка з праваслаўнага прыхода на Бельшчыне ці збіраецца ехаць на Святую Гару Грабарку ў час святкавання Праабражэння Гасподняга, калі будзе там маліцца патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл I, той адказаў, што не ездзіць на Грабарку тады, калі збіраецца там вельмі многа народу. Пазней спаткаў я яго разам з сямейнікамі ў царкве св. Дзмітрыя Салунскага на горцы каля Сакоў, якая сваім выглядам крыху напамінае Грабарку. На могільніку, які акружае Дзмітрыеўскую царкву, таксама стаяць старыя высокія драўляныя крыжы, а з розных бакоў храма растуць высокія сосны. На Спаса, 19 жніўня, у сонечнае надвор'е на прыгожай Дзмітрыеўскай горцы сабралася многа людзей. Стаялі яны ў малітоўным настроі побач старых дрэў і крыжоў, слухаючы багаслужбу з царквы запоўненай вернікамі. Некаторыя з іх пабывалі на сустрэчы з патрыярхам у Гайнаўцы або напярэдадні маліліся на Грабарцы. Аднак прыхаджане з Сакоў і Тапаркоў жылі перш за ўсё справамі сваёй парафіі, у якой апошнім часам вядуцца вялікія рамонтныя працы.

— Я па тэлебачанні бачыў, як патрыярх Кірыл падпісваў з каталікамі зварот да вернікаў і як наведваў сабор у Гайнаўцы, — сказаў адзін з мясцовых вернікаў, які на Спаса лічыў сваім абавязкам маліцца на сваёй горцы, а не на Грабарцы.

У гэты дзень малітвы ў Дзмітрыеўскай царкве ўзначальваў кляшчэлеўскі благачынны, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі ў саслужэнні перш за ўсё святароў Кляшчэлеўскага дэканата. У час пропаведзі гаварыў ён пра справы, якія дапамагаюць або перашкаджаюць у духоўным жыцці, звярнуў увагу на рамонтныя работы ў Дзмітрыеўскай царкве і побач яе. Зроблена ўжо вонкавая шалёўка прыблізна на палове храма, вядзецца падрыхтоўка да выканання шалёўкі на апошняй частцы царквы. На царкоўнай плошчы ляжалі будаўнічыя матэрыялы, прыкрытыя ад дажджу фольгай. Уся тэрыторыя была акуратна прыбрана перад святам. Новая драўляная шалёўка памалявaная на блакітны колер, так як адрамантаваная нядаўна званіца. Грунтоўны рамонт Дзмітрыеўскай царквы распачаўся некалькі гадоў таму назад. Дах быў перакрыты гонтай. Храм грунтоўна адрамантаваны ўсярэдзіне. Былі ўстаўлены новыя вокны і дзверы, пакладзены былі новыя падлога і шалёўка на сценах унутры царквы, адрамантаваная таксама столь. У гэтым годзе была ўзведзена прыгожая агароджа вакол царквы і могільніка на горцы ды вакол манастырскага будынка ў Саках. На рамонтныя работы былі выкарыстаны вонкавыя сродкі і ахвяраванні вернікаў і паломнікаў, якія штораз больш мнагалюдна наведваюць Дзмітрыеўскую царкву па нядзелях і ў час іншых святкаванняў. У першую нядзелю месяца пасля літургіі чытаецца тут акафіст да святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Такі акафіст чытаўся ноччу напярэдадні святкавання Праабражэння Гасподняга. У дзень Спаса былі адслужаны дзве літургіі і вадасвятны малебен. Пасля другой літургіі адбылося асвячэнне фруктаў. Са сваімі былымі вернікамі маліўся архімандрыт Варсанофій, які ад пачатку арганізаваў манастыр у Саках і раней кіраваў яго дзейнасцю, таксама праводзячы рамонтныя работы. Пра цяжкія пачаткі дзейнасці манастыра ўспамінаў айцец Мікалай Келбашэўскі, які дапамагаў першым іераманахам, прыбыўшым у Сакі — айцу Варсанофію і айцу Пятру. Ігумен Цімафей, цяперашні настаяцель Мужчынскага манастыра ў Саках падзякаваў вернікам і паломнікам за ахвяраванні на рамонтныя працы ў Дзмітрыеўскай царкве.



## http://belhouse.org

Палітычныя падзеі снежня 2010 года ў Беларусі прывялі да моцнай хвалі эміграцыі ў суседнія з ёй краіны. Яна ў многім адрознівалася ад папярэдніх — людзі з'язджалі, цвёрда разумеючы, што бліжэйшыя гады стануць часам рэакцыі ва ўсіх баках палітычнага жыцця. Так яно і адбылося. Праўда, з'явіўся і яшчэ адзін фактар вартасці знаходжання за межамі Беларусі — эканамічны правал, які адбыўся ў 2011 годзе, калі лукашэнкаўскі ўрад зрабіў людзей у тры разы бяднейшымі.

Беларуская эміграцыя 2010-2011 гадоў падаецца таксама больш арганізаванай, чым у папярэднія гады. Аб гэтым, па меншай меры, сведчаць тыя суполкі, што арганізавалі эмігранты за непрацяглы час. Адной з такіх арганізацый, напрыклад, у Польшчы з'яўляецца Беларускі дом у Варшаве, даведацца пра які можна з інтэрнэт-сайта **http://belhouse.org**.

Створаны летась сайт выглядае даволі проста, але разам з тым прывабна. Адной з яго прывабных рыс з'яўляецца простая навігацыя. Сайт візуальна падзелены на дзве часткі, прычым і ў першай, і ў другой змешчаны навінныя паведамленні.

Усе выйсці да нешматлікіх рубрык сайта знаходзяцца ўверсе выяўлення. Найбольш цікавым у плане азнаямлення з Беларускім домам падаецца старонка „Пра праект”, выйсце на якую змешчана ў самым канцы пераліку.

„Беларускі дом у Варшаве — арганізацыя, якая аб'ядноўвае беларускую дыяспару, інфармуе свет аб выдарэннях на Беларусі, падтрымлівае рэпрэсаваных дзеячаў беларускай апазіцыі і ўсіх тых, якія пацярпелі ад рэжыму”, — так прэзентуюць сваю арганізацыю яе стваральнікі. Згодна інфармацыі, пададзенай на гэтай старонцы, „Беларускі дом у Варшаве складаецца з дзвюх частак — фундацыі „Еўрапейская Беларусь” і структуры „Беларускі інфармацыйны дом”. Першая — гэта грамадзянская арганізацыя, мэта якой — увядзенне Беларусі да Еўрасаюзу, абарона праў і свабоды грамадзян Беларусі. Задача Беларускага інфармацыйнага дому — стварэнне беларусам форуму для абмену поглядамі, дэмакратызацыя беларускай дзяржавы, падтрымка незалежных медыяў на Беларусі, а таксама дапамога сусветным медыям у пашырэнні ведаў аб Беларусі”.

Рубрыка „Анонсы” носіць свайго роду культурніцка-адукацыйны характар. Там змешчаны абвесткі пра разнастайныя імпрэзы, кшталту канцэртаў ці спектакляў. Таксама наведвальнікі сайта інфармуюцца пра магчымасць атрымання стыпендый ці наведвання семінараў. Вартым увагі з'яўляецца план мерапрыемстваў на 2012 год. Сярод іх — лыжны рэйд памяці Кастуся Каліноўскага (Баброўнікі — Мастаўляны), рэйд на роварах памяці Станіслава Булак-Балаховіча (Варшава), рэйд на роварах памяці Язэпа Булак-Балаховіча (Гайнаўка — Белавежа), шэсце ў гонар Дня беларускай вайсковай славы (Варшава).

Аб працы Беларускага дому расказваецца ў рубрыцы „Наша дзейнасць”. Праўда, апошняе паведамленне там датуецца маем, пасля чаго, відаць, „жыхары” дому пайшлі ў доўгатэрміновы летні адпачынак.

Найбольшую карысць для тых, хто нядаўна эміграваў у Польшчу і мае патрэбу ў хутчэйшай сацыялізацыі, прынясуць рубрыкі „Прававая дапамога” і „Аб'явы”. Там распавядаецца пра прававыя нюансы знаходжання іншаземца ў краіне, а таксама паведамляецца пра магчымасць працаўладкавання.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

### Дбайныя Жодзішкі

Жодзішкі — мястэчка на поўначы сучаснай Гарадзеншчыны ў межах цяперашняга Смаргонскага раёна. Месца забудаванае на высокім, досыць маляўнічым беразе ракі Вялля, досыць аддаленае ад раённага цэнтра і паблізу біялагічнага заказніка Дубатоўскае. Некалі Жодзішкі былі цэнтрам місіі ордэна езуітаў, зараз мясцовы калгас лічыцца адным з перадавых у рэгіёне. Бываць у Жодзішках мне даводзілася чатыры ці пяць разоў, але гэтага дастаткова, каб заўважыць адрозны „характар” мястэчка.

Неяк з сябрамі краязнаўцамі мы шукалі ў ваколіцах колішнюю сядзібу публіцыста і ўдзельніка вызвольнага руху Юльяна Бакшанскага, гераічна загінуўшага ў паўстанні 1863 года. Месца яго пахавання вядомае — мястэчка Плябань Маладзечанскага раёна. А вось ад былога родавага фальварка Тупальшчына, што непадалёк Жодзішак, не засталося нават падмуркаў. Месца гэтае цяпер заараное і толькі па некаторых прыкметах і рэштках раскіданай цэглы можна было вызначыць пляц, дзе некалі была сядзіба. Расчараванне наша, аднак, сцішылася, калі ў той жа вандроўнай экспедыцыі ўдалося на хутары Плавушка знайсці хату сям'і Цікотаў. У гэтай мясціне нарадзіўся беларускі рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, генерал ордэна марыянаў Андрэй Цікота. Згінуў ён у савецкім канцлагеры ў 1952 годзе пры да канца невысветленых абставінах. Натуральна ўзнікла жаданне паставіць у Жодзішках у яго гонар крыж. З дапамогай спадчыннікаў хаты ўдалося адшукаць і належнае месца — на мясцовых могілках знайшлася магіла брата Цікоты — Фелікса, які таксама быў актывістам беларускага руху. У 2003 годзе высілкамі грэка-каталіцкай супольнасці памятны крыж Андрэю Цікоту быў пастаўлены і асвечаны. У Жодзішках з'явіўся яшчэ адзін помнік.

Першая дакументальная згадка пра Жодзішкі датычыць 1511 г., калі тут быў старадаўні замак і паселішча. Цягам XVI-XVII стагоддзяў яны належалі розным родам: Падбейпецічам, Забярэзінскім, Осцікавічам, Кішкам, Комарам, Мінкевічам. Шырокую вядомасць Жодзішкі пачалі набываць пасля таго, як тут быў заснаваны кальвінскі збор. У пачатку XIX стагоддзя ён быў перабудаваны ў касцёл і застаецца ім дагэтуль. У гэтым Троіцкім храме ёсць размалёўкі, якія выканаў беларускі мастак Пётра Сергіевіч.

Іншым знакавым мясцовым помнікам архітэктуры ў Жодзішках з'яўляецца будынак былога езуіцкага калегіума. Заснаваны тут ён быў у 1757-1766 гадах у маёнтку Мінкевічаў паводле праекта знакамітага архітэктара Тамаша Жаброўскага. З канца XVIII стагоддзя, калі місія паслядоўнікаў Ігнацыя Лаёлы ўжо тут не працавала, калегіум быў пераўтвораны ў палац. У розны час сядзіба належала Патоцкім, Ласкарысам, Мілашэўскім. З асоб варта прыгадаць Ігната Жабу, тэолага, які быў тут рэктарам калегіума і выкладаў багаслоўскія навукі. Многа пазней у мясцовым касцёле амаль год (са жніўня 1924 г. да чэрвеня 1925 г.) служыў Вінцэнт Гадлеўскі, адзін з ідэолагаў беларускага Адраджэння. А будынак былога езуіцкага кляштара ўжо многія гады прыстасаваны пад псіхіятрычны шпіталь.

А яшчэ ў Жодзішках захаваліся будынкі старога воднага млына і бровара. Мясцовыя насельнікі заўсёды былі дбайнымі гаспадарамі, адчуваецца гэта нават і зараз праз дзесяцігоддзі савецкага ладу. Ідзеш і бачыш акуратныя панадворкі, запрэжаныя дагледжаныя коні і побач з імі дастаткова добрыя машыны. Адчуваецца, што ў гэтай частцы гістарычнага Віленскага краю людзі яшчэ не развучыліся працаваць, рупіцца пра свой дабрабыт. І марыць пра лепшае...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Залатое вяселле

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

З жніўня г.г. у Гарадскім асяродку культуры, спорту і адпачынку „Гладышка" адбылося „Залатое вяселле". Імпрэза дала пачатак святкаванням XVI Дзён Кляшчэляў. У мерапрыемстве ўдзельнічалі грамадскі кансультант прэзідэнта Рэчы Паспалітай па справах праваслаўнай грамадскасці і беларускай меншасці ў Польшчы Аляксандр Сасна, шлюбныя пары, якія адзначалі 50-годдзе супольнага сужонства, іх сямейнікі, павятовы радны Яраслаў Герасімюк, журналістка Радыё Рацыя Наталля Герасімюк, кіраўнік ЗАГСА, дырэктар ГАК, гмінныя радныя ды гурты „Каліна" з Дашоў і „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага. Ганаровых гасцей прывітала бурмістр Ірэна Негярэвіч. Пасля зачытала віншавальны ліст падляшскага ваяводы Мацея Жыўны, які быў пасланы бурмістру з нагоды інаўгурацыі XVI Дзён Кляшчэляў.

— Гэтая падзея, — напісаў ваявода, — без сумнення з'яўляецца дасканалай нагодай для супольных святкаванняў і інтэграцыі лакальнай грамадскасці. (...) Карыстаючыся нагодай, віншую мясцовы самаўрад, а таксама жыхароў з поспехамі і дасягненнямі апошніх гадоў.

Юбіляры (на першым плане злева направа): Валянціна і Ян Клімовічы з Дабрывады ды Браніслава-Генрыка і Генрык Кісякі з Белай Стражы

У ліку юбіляраў апынулася шаснаццаць шлюбных пар. Удзельнічала дзесяць сужонстваў: Ян і Таіса Врублеўскія, Яўген і Ірэна Кавальчыкі, Сяргей і Клаўдзія Ярацэвічы з Кляшчэляў, Сцяпан і Лідзія Леанюкі з Палічнай, Генрык і Браніслава-Генрыка Кісякі з Белай Стражы, Анатоль і Вера Волчукі з Грузкі, Ян і Валянціна Клімовічы з Дабрывады, Ян і Надзея Шыманчукі з Паграбоў, Барыс і Антаніна Бярозы з Тапаркоў ды Юрый і Марыя Шклярукі з Сухавольцаў. Адсутнічалі Лявон і Яўгенія Мартыновічы, Міхал і Марфа Шатыловічы з Дашоў, Пятро і Ніна Сцепанюкі з Палічнай, Анатоль і Марыя Федарукі з Жукоў, Віталій і Людміла Ваўрыновічы з Кляшчэляў ды Уладзімір і Анна Шклярукі з Сухавольцаў. На жаль, апошняе сужонства не дачакалася юбілею — абое памерлі ў час афармлення дакументаў.

Юбілярам медалі ўручылі кансультант прэзідэнта РП Аляксандр Сасна і бурмістр Ірэна Негярэвіч. Затым былі віншаванні ад сямейнікаў і супольныя памятныя здымкі. Пасля адбылася мастацкая частка. Выступілі „Каліна" з Дашоў з даўнейшымі песнямі і гурт „Васілёчкі", які запрэзентаваў беларускія народныя творы. Мерапрыемства закончылася супольным пачастункам юбіляраў, іх сямейнікаў і запрошаных гасцей. Былі віншаванні, пажаданні, тосты, традыцыйнае „Многае лета" і ўспаміны, якія запісвала журналістка Радыё Рацыя Наталля Герасімюк. Сустрэча праходзіла ў мілай, сяброўскай атмасферы.

# Мультыопера чакае нас

1 ☞ працяг

чу ўзамен за закупку білета ў ПОіФ:

— Прапанова консула РП у Гродне Анджэя Хадкевіча надалей актуальная. Мы размаўлялі ўжо з фірмамі, якія маюць кліентаў на беларускім баку і плануем, што для тых, што прыедуць ва ўікэнд у нашу оперу ці філармонію, падрыхтуем спецыяльную льготную прапанову. Спалучэнне культуры і бізнесу, гандлю — вельмі добрае. Калі людзі з Беларусі прыязджаюць сюды за пакупкамі, дык няхай таксама пабачаць штосьці, чаго не бачаць у сябе ў сферы культуры.

Што апрача таго?

— Вельмі важным для мяне з'яўляецца супрацоўніцтва з беластоцкім Драматычным тэатрам. З новай дырэктаркай Агнешкай Карыткоўскай-Мазур плануем пашчыльніць мастацкую дзейнасць абедзвюх устаноў. У сваю чаргу разам з сейненскім Асяродкам „Паграніччa — мастацтваў, культур, народаў" ад студзеня будзем пускаць у рух вялікую выставу пра Падляшша. Спадарожнічаць таму будзе вялікі адукацыйны і тэатральны праект, над якім актуальна працуем з „Паграніччам". З захапленнем аглядаю іхні тэатральны праект „Сейненскія хронікі" і цудоўны, беларуска-польскамоўны тэатральны мікст „Ой даўно, даўно". Цікавіць мяне, каб камерную залу Оперы і філармоніі аддаць якраз такім тэатральным групам, якія дзейнічаюць мультылінгвальна. Я хацеў бы, каб дзеці з Беластока стварылі прадстаўленне „Беластоцкія хронікі", і каб спектакль быў на некалькіх мовах: беларускай, літоўскай, польскай, ідыш. У найбліжэйшы час сустракаюся з дырэктаркай Філармоніі ў Гродне. Я ўжо правёў размовы з консулам Хадкевічам і біг-бенд з Гродна мог бы выступіць з маім біг-бендам. Прафесар Анджэй Струміла рыхтуе ў сваю чаргу на кастрычнік будучага года вялікую выставу, звязаную з 500-годдзем Падляшскага ваяводства. Будуць там толькі яго новыя працы. На тую выставу запрашае ён знакамітага ўкраінскага графіка Алега Дэнісенку. Пабачым таксама выбар прац беларускіх скульптараў, стараемся таксама здабыць літоўскага партнёра ў галіне мультымедыяў. Маем за сабою ўступныя размовы з Операй у Мінску наконт нашага супрацоўніцтва. Хочам разам узяцца за сумеснае прадзюсерства. Ані мы, ані яны не ў змозе справіцца з такімі дарагімі мерапрыемствамі як вытворчасць новых оперных спектакляў. У іх ёсць, напрыклад, знакамітыя майстэрні, таннейшая там увогуле тэатральная вытворчасць. Такія сумесныя капрадукцыі я хацеў бы рабіць у два-тры тэатры, не толькі з мінскай операй. Ёсць такія сусветныя загалоўкі, якія могуць прыдацца ў рэпертуары кожнага тэатра, а не кожны можа з гэтым справіцца. Быў бы гэта зародак будучай музычнай уніі, аб якой я мару. Хачу, каб балет паяўляўся ў нас як найчасцей.

Польская прапрэм'ера „Корчака" аўтарства Ніка Стымсана і Крыса Уільямса адбудзецца 29 верасня і ўдастоіць другі дзень інаўгурацыі гмаху Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтва. У першы дзень будзе прадстаўлены „Страшны двор" Станіслава Манюшкі.

# Адгаданка

1. бязлітасны месяц, 2. Леў, гетман Вялікага Княства Літоўскага /1557-1633/, 3. паясная частка цела ў... Італіі, 4. сказ Карана, 5. частка цела ў задзіракі, 6. швейцарская тэрытарыяльная адзінка, 7. бацька паніча, 8. астатак ад зрэзанага бакавога парастка ствала ў... барсука, 9. дзяржава, дзе рыс купляюць за юані, 10. вопратка, 11. раменьчык для сцягвання клешчаў хамута, 12. месца, куды не выпадае вазіць дроў, 13. літаратурны псеўданім аўтара „Тутэйшых".

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — германская прыказка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Дзеянне, клін, нос, слой, соўс, хінін, хіпі, шчака, язва.

Рашэнне: **Калі хочаш здзяйснення сваіх сноў, ніколі не спі.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 02.09 — 08.09

**(22.03. — 20.04.)** Першая палова месяца — ідэальны час для таго, каб пахудзець. 2-6.09. — зоркі падкінуць табе задумы, якія паставяць твайго шэфа на калені. Насычаны і плённы тыдзень. Хаця некаторыя твае мары далёкія ад рэальнасці, пачні ажыццяўляць іх. Пятніца — дзень нечаканых і незвычайных вестак.

**(21.04. — 21.05.)** Працуй сумленна і салідна, як дасі рады, хаця пагражаюць табе канфлікты на працы, якія сам можаш справакаваць з-за твае ўпартасці. Будзь асцярожны ў словах, каб каго не пакрыўдзіць ці не раздуць канфлікту. Добры час на здаровую дыету. У пары можаш пачаць усё ад пачатку.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш мець добры нос для нагод. Не рассакрэчвай перад усімі сваіх таямніц. Сур'ёзныя рашэнні перакладзі на наступны тыдзень. Маеш шанц сустрэць братнюю душу (разумную, добрую, захаплялъную). У здароўі маеш шанц зрабіць штось для сябе, паздаравець і памаладзець.

**(23.06. — 23.07.)** Адчуеш сябе шчаслівым. Будзеш заваёўваць і ламаць сэрцы. Дзе з'явішся, акружаць цябе твае аматары. Сам паверыш у сваю прывабнасць! Будзеш рабіць усё тое, што табе дае прыемасць, хаця будуць табе дакучаць галаўныя болі, бяссонніца і праблемы з ціскам. У сераду не пі ніякіх спіртных напояў!

**(24.07. — 23.08.)** Падымуцца твае эмоцыі, а флірты амалодзяць! Зоркі папраўяць кантакты з супрацьлеглым полам і заахвоцяць да раманаў. Ды 5-9.09. могуць набрысці фінансавыя праблемы. Пастарайся тады не рызыкаваць, бо можаш пераацаніць свае магчымасці. Пакінуўшы якуюсь справу назавершанай, можаш падвяргнуцца праблемам у будучыні.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш поўны сілы і адвагі. Пазбудзешся сумненняў і пачнеш дзейнічаць з поспехам. На працы можаш пазмагацца за павышэнне. Пачуццё няўпэўненасці і трывогі можа папраўіць перастаноўка мэблі ў хаце. У чацвер сядзі ціха, калі ў фірме ідзе скарачэнне штатаў. У суботу поўнасцю аддайся нахлынуўшаму на цябе пачуццю.

**(24.09. — 23.10.)** Да 5.09. магчымыя фінансавыя турботы; не страчвай веры ў шчасце, неўзабаве яно да цябе ўсміхнецца! Падумаеш аб інвестыцыях. Задбай аб сваё здароўе, не адкладвай візіту ў спецыяліста. Высыпайся! Тыдзень поўны ўдач, добрых эмоцый, новых знаёмстваў, сустрэч з мілымі людзьмі.

**(24.10. — 22.11.)** Плануй сустрэчы ў інтарэсах; найлепшы момант на заваёву рынку! Да 6 верасня пераадолееш найцяжэйшыя перашкоды. Усё ўдасца! Будуць спрыяць і людзі. Добрыя эмоцыі, знаёмствы з файнымі людзьмі. Будзь як найбольш актыўным і ініцыятыўным. Асабліва добра справы пойдуць у сераду. У чацвер зайграй у латарэю. У пятніцу, выходзячы з дому, нічога не цыруй і не зашывай, каб не адвярнулася ўдача.

**(23.11. — 22.12.)** Добры час для любові або яе пошукаў. 5-9.09. будзь вельмі разважлівым і памяркоўным, бо або трапіш у канфлікт з правам, або што неразважнае ўпораш. Не будзеш наракаць на самоту (калі натрапіш на свой ідэал, адразу будзеш ведаць, што сустрэў асобу на ўсё жыццё). У панядзелак можа адбыцца нечаканае здарэнне.

**(23.12. — 20.01.)** Ты не павінен на нішто наракаць першыя дзве дэкады верасня (ну, можа толькі на прагнасць). Сціпласцю можаш здабыць больш. Да новых знаёмстваў падыходзь памяркоўна. Ды 2-9.09. можа цябе чакаць расчараванне ў каханні (хутка ад яго абтрасешся!) З 7.09. (да 11.09). будзеш прымушаны справіцца з дробнымі ды злуючымі перашкодамі.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш думаць пра сябе. Калі ты свабодны Вадалей, ніхто цябе не зловіць. Вадалей у пары будзе ўступчывы і адданы. Да 6.09. пераканаеш кожнага да сваіх задум. Пільна слухай і сачы, здабудзеш каштоўную інфармацыю. Хутка можаш знайсці добрую і багатую крыніцу прыбыткаў.

**(20.02. — 21.03.)** Да 4.09. не прывязвайся да сваіх планаў. Будзеш вельмі перагружаны працай, ды трэба будзе адпачыць, супакоіцца. Можаш таксама адчуваць, што іншыя маюць лепш (толькі не кідай работы!). Шукай саюзнікаў і спрыяльных табе людзей. А прапаноў будзе аж лішак, але ж не лаві сарака сарок за хвасты!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.





Міхась Скобла зачытавае пісьмы Ларысы Геніюш

# З „Лістоў з Зэльвы” пачалося ўшанаванне Ларысы Геніюш

**Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА**

Штогод у Зэльве ў пачатку жніўня збіраюцца беларусы з усіх куткоў Бацькаўшчыны, каб ушанаваць памяць пра Ларысу Геніюш — легенду беларускай паэзіі, прыклад высокай чалавечай маральнасці, ахвярнай хрысціянкі і сапраўднага патрыёта Бацькаўшчыны.

I сёлета ў суботу, 11 жніўня, каля сарака чалавек завіталі ў Зэльву з Гародні, Слоніма, Свіслачы, Мінска, Ваўкавыска, а краязнавец з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Алесь Зайка прыехаў нават на матацыкле.



Выступае мастак Алесь Пушкін

Імпрэза пачалася ў зэльвенскай Свята-Троіцкай царкве з набажэнства на беларускай мове ў гонар паэткі. А потым усе сабраліся каля помніка Ларысе Геніюш, які знаходзіцца на цвінтары. Адкрыў урачыстасць паэт і літаратуразнавец Міхась Скобла: „Так ужо атрымалася, што гэтая зямля каля помніка — гэта зона свабоды ў Зэльве. Яна, на жаль, невялікая. Але ўжо сталася традыцыяй і мы ўжо не наракаем на тое, што не забяспечаныя ўмовы, памяшканне. Апошні раз у зэльвенскім Доме культуры Ларысу Геніюш ушаноўвалі ў 2000 годзе. Ад таго часу ўрачыстасці сталі напаўафіцыйнымі. 9 жніўня споўнілася б 102 гады з дня народзінаў беларускай паэткі. Вось мы і сабраліся яе зноў ушанаваць”.

Міхась Скобла разам з Эдвардам Дмухоўскім з Гародні на імпрэзе прэзентавалі кнігу „Лісты з Зэльвы”, якая выйшла сёлета з друку ў серыі „Гарадзенская бібліятэка”. У пісьмах знайшлі сваё адлюстраванне самыя розныя падзеі — паўсядзённыя і эпахальныя. У іх — споведзь паэткі, яе боль, яе гнеў, яе перажыванні, яе вялікая любоў да Беларусі, а таксама бескампрамісная ацэнка палітычных падзей, літаратурных твораў, людскіх учынкаў. У кнігу ўвайшлі 420 лістоў, 366 з якіх надрукаваны ўпершыню.



Юбілей адзначалі з „Нівай”

Шчырыя словы пра паэтку сказалі мясцовы праваслаўны святар айцец Георгій, мастак Алесь Пушкін, а зэльвенскі актывіст Яўген Скрабутан расказаў, як ён збіраў подпісы на Савецкай вуліцы за яе пераймянаванне ў вуліцу Ларысы Геніюш, дзе большасць жыхароў вуліцы пажадала, каб Савецкая вуліца насіла імя вялікай паэткі. Нават тапанімічная камісія з Мінска падтрымала гэту ідэю, але яе заблакіравалі ў Зэльвенскім райвыканкаме.

Пасля ўсе госці пераехалі на мясцовыя могілкі, дзе калі магілы Ларысы і Янкі Геніюшаў таксама шчырыя словы казалі пісьменнікі і грамадскія актывісты. А жыхарка Зэльвы Ірына Тукальская, якая шчыра сябравала ўсё жыццё з Ларысай Геніюш, прамовіла: „Вось тут, побач з магілай Геніюшаў, знаходзіцца магіла былой дэпутаткі Вярхоўнага Савета БССР, але бачыце, амаль няма ўжо яе магілы, няма помніка на ім і няма памяці. А памяць пра нашу вялікую беларускую Ларысу Геніюш будзе заўсёды жыць”.

Нагадаю яшчэ раз пра Ларысу Геніюш. Нарадзілася яна 27 ліпеня 1910 года ў маёнтку Жлобаўцы на Ваўкавышчыне. Скончыла Ваўкавыскую гімназію (1928). У 1937-1948 гадах жыла ў Празе. Муж Янка Геніюш там працаваў доктарам, і яна паехала за ім. У сакавіку 1943 года Ларыса Геніюш стала генеральным сакратаром урада БНР. 5 сакавіка 1948 года саветы арыштавалі яе.

Пасля былі допыты ў следчым ізалятары КДБ пад кіраўніцтвам міністра дзяржбяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы, турэмныя выпрабаванні. Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу Геніюш да 25 гадоў зняволення ў лагерах. Нягледзячы на гэта, паэтка не зламалася. Пасля частковай рэабілітацыі была вызвалена з турмы, і з 1956 года пасялілася разам з мужам у Зэльве.

7 красавіка 1983 года Ларысы Геніюш не стала. У знак павагі да гэтага чалавека, насуперак волі мясцовай улады, тысячы людзей прыйшлі да яе, каб развітацца і правесці ў апошні шлях. Памяць аб Геніюш застаецца ў сэрцах беларусаў да сённяшніх дзён і будзе заўсёды.

Вершы Ларыса Геніюш пісаць пачала яшчэ ў гімназіі, а друкавацца — у 1939 годзе ў беларускіх перыядычных выданнях „Раніца”, „Беларускі работнік”, „Новы шлях”. У 1942 годзе ў Празе выйшаў першы зборнік яе паэзіі „Ад родных ніў” (факсімільнае выданне пабачыла свет у Слоніме ў 1995 годзе). Працягвала пісаць вершы і ў зняволенні. Пасля развалу таталітарызму пасмяротна былі выдадзены найбольш поўныя і значныя зборнікі яе твораў. І працягваюць выдавацца.

Падчас ушанавання паэткі

Магіла Геніюшаў на зэльвенскіх могілках

Спявае Тацццяна Матафонава

Увесь час, калі ў Зэльве адбывалася ўшанаванне паэткі, міліцэйскія машыны дзяжурылі каля царквы і на могілках. А зэльвенская вертыкаль у гэты дзень арганізавала фальклорнае свята ў вёсцы Сынковічы, куды сілай і загадамі заставілі прыехаць культработнікаў, настаўнікаў, бібліятэкараў, каб толькі яны не прыйшлі ўшаноўваць Ларысу Геніюш. Але раённае свята фальклору атрымалася няшматлюдным.

Усе, хто прыняў удзел ва ўшанаванні 102-х угодкаў Ларысы Геніюш, атрымалі газету „Ніва” і каляндарыкі Радыё Рацыя, якія прывезлі журналісты з Гародні і Слоніма.



На фальклорным свяце ў Сынковічах было мала гледачоў

ISSN 0546-1960